




# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

22 лістапада 2019 года №47 (1282) 18+


# Былому галоўнаму інжынеру завода «Зеніт» надзелі кайданкі

Уладзіміра Кіскіна прыгаварылі да трох гадоў калоніі. Прыгавор у законную сілу яшчэ не ўступіў



Уладзімір Кіскін (справа) у зале суда. Фота kp.by.

старонка 4

Галоўны корпус вілейскага прадпрыемства ААТ «Зеніт-БелОМА». Фота vileykainfo.by.

## Расклад руху цягнікоў эканамкласа на 25-28 лістапада

старонка 5







## Следчыя зацікавіліся матчам паміж «Дынама-Маладзечна» і «Магілевам»

старонка 22

## Хто ў рэгіёне стаў дэпутатам парламента

старонка 2

ISSN 1991–7155




Адсканујце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



## У школе алімпійскага рэзерву – новы дырэктар

АСТРАВЕЦ

Гэта **Дзмітры Сакалоўскі**.

Ён родам з Варнянаў. У дзяцінстве зацікавіўся спортам – гэта заўважыў трэнер **Андрэй Блашкевіч**, які зрабіў усё, каб хлопчык палюбіў лёгкую атлетыку.

Пасля заканчэння Варнянскай сярэдняй школы ў 1999 годзе Дзмітры Сакалоўскі паступіў у Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы на факультэт фізічнай культуры і спорту. Працаваць пачынаў у Гудагайскай сярэдняй школе, пасля выкладаў фізкультуру ў Альхоўскай і Спондаўскай школах. У апошні час працаваў у гімназіі №1 Астраўца.

11 лістапада Дзмітры Іосіфавіч прызначаны дырэктарам Астравецкай спецыялізаванай дзіцяча-юнацкай школы алімпійскага рэзерву.

Жанаты. Выхоўвае двух дачок і сына.

**Паводле ostrovets.by.**

## Вучні з рэгіёна прайшлі адборачны тур рэспубліканскага праекта «Я ведаю!»

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА
ВАЛОЖЫН
МЯДЗЕЛ

14 лістапада ў Мінскім абласным інстытуце развіцця адукацыі зладзілі адборачны этап рэспубліканскага тэлепраекта «Я ведаю!».

Сярод вучняў, якія набралі найбольш балаў, ёсць дзеці з нашага рэгіёна. Гэта **Іван Броўка** – пяцікласнік з гімназіі-інтэрната Мядзела, **Сафія Саланец** – пяцікласніца з вілейскай школы №3, **Андрэй Сак** – шасцікласнік з гімназіі №7 Маладзечна, **Стафанія Коршук** – шасцікласніца СШ №14 Маладзечна, **Раман Клунік** – шасцікласнік з гімназіі-інтэрната Мядзела, **Кірыл Аляксеенка** – сямікласнік з шостай гімназіі Маладзечна, **Ілля Барысевіч** – васьмікласнік Валожынскай СШ №1.

Нядрэнна выступілі і вучні 9-11 класаў. Адзначыліся дзевяцікласнікі **Павел Посах** з гімназіі №10 Маладзечна, **Ганна Астрэліна** з Нарацкай школы №2, **Веранiка Бобрык** з СШ №1 Валожына і **Арцём Кратовіч** з Вілейскай гімназіі «Логас»; дзесяцікласнікі **Ілля Таўгень** з Валожынскай гімназіі №1 і **Антон Губко** з гімназіі №10 Маладзечна; адзінаццацікласнікі – **Павел Дашкевіч** з гімназіі №10 Маладзечна, **Андрэй Смолка** з СШ №3 Вілейкі, **Ксенія Звярко** з Івянца.

**Аддзел інфармацыі.**

## У Арпе ладзяць раскопкі старажытнага гарадзішча

ВІЛЕЙКА

Раскопкі праходзяць 18-24 лістапада.

Кіруе раскопкамі старшы навуковы супрацоўнік аддзела археалогіі першабытнага грамадства Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук **Максім Чарняўскі**.

> Мяркуецца, што гарадзішча, знойдзенае ў Арпе, існавала на мяжы тысячагоддзяў.

Пра гарадзішча мы пісалі ў 2017 годзе. Тады дарожная служба знайшла месца пад кар'ер і пачала здабываць там пясок. Аднак своечасова спахапіліся мясцовыя краязнаўцы – на гэтай тэрыторыі размяшчалася гарадзішча жалезнага веку, а ў зямлі захаваліся артэфакты з таго часу.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Да канца года ўсе старыя ліхтары абяцаюць замяніць на новыя

ВІЛЕЙКА

Да канца года ўсе старыя гарадскія ліхтары заменяць на новыя энергаэфектыўныя.

> Будуць выкарыстоўваць святлодыёдныя лямпы. А яны больш эканамічныя за старыя – спажываюць энергіі ў дзесяць разоў менш.

Пра гэта на сустрэчы з калектывам Вілейскага бюро Маладзечанскага філіяла РУП «Мінскае абласное агенцтва па дзяржаўнай рэгістрацыі і зямельным кадастры» распавёў намеснік старшыні Вілейскага райвыканкама **Аляксандр Катовіч**.

Інфармацыя прагучала ў кантэксце пытання пра тое, што вуліцы Піянерская і Астроўская дрэнна асветленыя. Намеснік старшыні паабяцаў разабрацца з пытаннем, адпаведнае даручэнне перададуць Вілейскай ЖКГ.

**Паводле Вілейскага райвыканкама.**



Фота hegemonia.com.

# Хто перамог у парламенцкіх выбарах у рэгіёне

**17 лістапада завяршыліся парламенцкія выбары. У ноч на 18 лістапада ЦВК апублікавала папярэднія вынікі галасавання на выбарах у парламент. Сярод тых, хто прайшоў у Палату прадстаўнікоў сёмага склікання, няма апазіцыі.**

### Маладзечна і Валожын

У Маладзечанскай гарадской акрузе №72 перамагла **Людміла Мікалаеўна Кананові**ч. А ў Маладзечанскай сельскай акрузе №73 – **Алег Аляксеевіч Семянчук**.

> Людміла Канановіч ўдругі раз перамагае на выбарах у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу.

Як дзеючы дэпутат парламента яна адказвала за падрыхтоўку законапраекта «Аб змяненні Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ахове працы», уваходзіла ў рабочыя групы па супрацоўніцтве з парламентамі Каралеўства Бельгія, Марока, рэспублік Індыя, Кіпр, Іарданскага Хашымiцкага Каралеўства.

Алег Семянчук – старшыня камітэта па працы, занятасці і сацабароне Мінскага аблвыканкама.

### Ашмяны

Ашмянцы галасавалі ў Іўеўскай выбарчай акрузе №54. Там перамог **Аляксандр Іванавіч Маркевіч**. Гэта дзеючы дэпутат, намеснік старшыні Пастаяннай камісіі па заканадаўстве. Як дэпутат уваходзіць у склад рабочых груп па супрацоўніцтве з парламентамі Азербайджана, Балгарыі, Егіпта, Латвіі, Лівана і іншымі.

### Астравец і Смаргонь

Астравец і Смаргонь прагаласавалі ў Смаргонскай выбарчай акрузе №59 за **Віктара Збігневіча Свілу**. Ён – намеснік старшыні Астравецкага райвыканкама.

### Вілейка і Мядзел

**Ірына Аляксандраўна Супрановіч** перамагла ў Вілейскай акрузе №74, дзе галасавалі жыхары Вілейкі і Мядзел. Ірына Супрановіч – старшыня Крывасельскага сельсавета на Вілейшчыне.

### Што можа зрабіць дэпутат Палаты прадстаўнікоў для выбаршчыкаў

Ці могуць выбаршчыкі, якія аддалі галасы дэпутатам Палаты прадстаўнікоў на выбарах, разлічваць на абарону сваіх інтарэсаў? Як уплывае ранейшая пасада на дзейнасць дэпутата? З такімі пытаннямі мы звярнуліся да эксперта **Паўлюка Быкоўскага**.



Фота з сайта БАЖ.

Паўлюк Быкоўскі.

– Досвед асобы, якая прыходзіць у дэпутаты, сапраўды часам уплывае на далейшую дзейнасць. Так, дэпутат можа лабіраваць інтарэсы пэўнай мясцовасці ці пэўнага прадпрыемства. Але тут кожны канкрэтны выпадак варта разглядаць асобна.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў працуе з акругай, праводзіць сустрэчы. Калі ён напоўніцу будзе карыстацца сваімі паўнамоцтвамі, то дапаможа выбаршчыку вырашыць нейкую балючую праблему. Так, дэпутат не будзе мяняць лямпачкі ў пад'ездзе, але ён можа прыцягнуць увагу да праблемы, дзе ёсць канфлікт. Напрыклад, жыхароў нейкага двара і забудоўшчыка. На дэпутацкі запыт міністэрствы і ведамствы адказваюць хутка і па сутнасці. Дэпутат можа дапамагчы выбаршчыкам дагрукацца да мясцовых улад.

У дзейнасці дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў ёсць узровень, дзе яны маюць больш паўнамоцтваў у параўнанні з мясцовымі саветамі. Гэта заканатворчая дзейнасць. Тэарэтычна дэпутаты Палаты прадстаўнікоў могуць складаць такі законапраект, які б абараняў інтарэсы выбаршчыкаў.

> Праўда, на практыцы яны амаль не робяць гэтага. Часцей пагаджаюцца або не пагаджаюцца з ужо гатовымі законапраектамі.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**


Фота з архіва «РГ».

На маладзечанскім рынку райспажыўтаварыства.

# Маладзечанскі раён – адзін з самых «іпэшных»

**У Беларусі расце колькасць індывідуальных прадпрымальнікаў і ўдзельная вага паступленняў у бюджэт ад іх.**

Гэта вынікае з дадзеных Міністэрства па падатках і зборах за студзень-верасень гэтага года. FINANCE.TUT.BY паглядзеў, дзе больш за ўсё ІП і ў якіх раёнах яны амаль «вымерлі».

### Колькі ў Беларусі цяпер працуе прадпрымальнікаў

На пачатак кастрычніка ў Беларусі налічвалася 253,8 тысячы індывідуальных прадпрымальнікаў. Гэта амаль на 12,5 тысячы больш, чым на пачатак года. Лідзіруе па колькасці ІП па-ранейшаму Мінск – 77,4 тысячы, а ў аўтсайдарах – Віцебская вобласць (25,9 тысячы). Прадпрымальнікаў стала больш у параўнанні з пачаткам года ва ўсіх рэгіёнах. Да прыкладу, у Мінску за дзевяць месяцаў гэтага года дадалося 3,6 тысячы ІП.

### Які ў Беларусі самы «іпэшны» раён, а дзе ІП амаль «вымерлі»?

З раёнаў па колькасці ІП лідзіруюць Мінскі (10 381 на пачатак кастрычніка), Барысаўскі (5281), **Маладзечанскі (3978)**, Лагойскі (3884), Аршанскі (3188), Мазырскі (2715), Слуцкі (2622), Салігорскі (2622), Полацкі (2197), Кобрынскі (2111) і Дзяржынскі (2058).

Пры гэтым менш за ўсё ІП у Нараўлянскім раёне (78), Дрыбінскім (99), Брагінскім (108), Краснапольскім (116), Слаўгарадскім (137), Ельскім (141), Ветказскім (147), Лёзненскім, Хоцімскім, Кармянскім, Лоеўскім (па 152).

**Па інфармацыі tut.by.**

## У эканоміку Вілейшчыны замежныя інвестары ўклалі амаль 465 тысяч долараў

**ВІЛЕЙКА**

За студзень-верасень у эканоміку Вілейскага раёна замежныя інвестары ўклалі 464,3 тысячы долараў.

Найбольшыя сумы замежных інвестыцый уклалі ў арганізацыю прамысловасці – 369,9 тысячы, або 79,7% ад агульнага аб'ёму замежных інвестыцый.

Сярод краін-інвестараў 79,7% агульнага аб'ёму замежных інвестыцый прыпадала на суб'екты гаспадарання Польшчы. Замежны капітал за студзень-верасень 2019 года прыцягваўся ў выглядзе прамых інвестыцый.

Прамыя замежныя інвестыцыі на чыстай аснове (без уліку запазычанасці прамому інвестару за тавары, работы, паслугі) склалі 464,3 тысячы долараў.

**Паводле інфармацыі Галоўнага статыстычнага ўпраўлення Мінскай вобласці.**

## Чаму трэба патрабаваць чэк у таксі

Кіроўца аўтамабіля-таксі пасля перавозкі для пацвярджэння аплаты праезду абавязаны выдаць пасажыру плацежны дакумент і разлічыцца з ім. Выключэнне – аўтамабіль-таксі, што перавозіць пасажыраў з выкарыстаннем электроннай інфармацыйнай сістэмы з функцыяй безнаяўнай аплаты.

Чэк гарантуе пасажыру права на кампенсацыю шкоды жыццю, здароўю і маёмасці ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку.

Калі вы патрабуеце чэк, то робіце свой унёсак у спыненне фактаў хавання выручкі. Вы спыняеце страту плацяжоў у бюджэт.

Таму мы заклікаем пасажыраў патрабаваць ад перавозчыка касавы чэк пасля завяршэння кожнай паездкі. Калі перавозчык не выдаў чэк, інспекцыя просіць падаць пісьмовыя заявы на электронную пошту imns614@nalog.gov.by з указаннем:

– нумара тэлефона, з якога выклікалі таксі,

– найменне перавозчыка,

– маршруту, часу выкліку, сумы аплаты,

– іншых абставін, якія пацвердзілі б вашу паездку.

Аўтамабільныя перавозкі пасажыраў рэгулюе пастанова Савета Міністраў ад 30 чэрвеня 2008 года №972 «Аб некаторых пытаннях аўтамабільных перавозак пасажыраў».

Інфармацыя пра падатковы кантроль у сферы перавозак пасажыраў у таксі размешчаная на сайце rh.by.

**Інспекцыя МПЗ па Маладзечанскім раёне.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 14.11 | 21.11 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.0556 | **2.0476** |
| Еўра | 2.2626 | **2.2667** |
| Злоты, 10 | 5.2847 | **5.2778** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.1987 | **3.2008** |
| Грыўня, 100 | 8.4539 | **8.4690** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 13.11 | 20.11 |
| Еўра | 2.2500/2.2760 | **2.2400/2.2850** |
| Долар ЗША | 2.0450/2.0640 | **2.0350/2.0540** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 13.11 | 20.11 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,80 | **19,87** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 6,90 | **7,44** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,95 | **4,95** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 15,60 | **15,60** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,40 | **1,40** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,50 | **1,50** |
| Агуркі, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Баклажаны, 1 кг | 4,90 | **5,90** |
| Бульба, 1 кг | 0,50 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Кабачок, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,45 | **0,45** |
| Лісічкі, 1 л | 5,00 | **–** |
| Морква, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Памідоры, 1 кг | 2,50 | **3,50** |
| Перац, 1 кг | 3,50 | **5,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Часнок, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Бананы, 1 кг | 2,70 | **2,80** |
| Вінаград, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Гранат, 1 кг | 3,90 | **4,20** |
| Грушы, 1 кг | 3,30 | **2,90** |
| Журавіны, 1 л | 4,00 | **5,00** |
| Ківі, 1 кг | 4,30 | **4,30** |
| Лімон, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Хурма, 1 кг | 2,90 | **2,90** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,90 | **1,80** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

# Былога галоўнага інжынера завода «Зеніт» прыгаварылі да трох гадоў калоніі

ВІЛЕЙКА

**У судовай справе былых кіраўнікоў Беларускага оптыка-механічнага аб'яднання фігуруе і былы галоўны інжынер вілейскага завода «Зеніт» Уладзімір Кіскін, які працаваў у Вілейцы ў 1980-х гадах.**


Фота kp.by.

Уладзімір Кіскін (справа) у зале суда.

Былога гендырэктара дзяржхолдынгу «БелОМА» **Вячаслава Бурскага** прысудзілі да пяці гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Яго намеснік **Уладзімір Кіскін** атрымаў тры гады калоніі. Абодвух узялі пад варту ў зале суда.

Вячаслава Бурскага і Уладзіміра Кіскіна затрымалі ў пачатку года. Іх абвінавачвалі ў атрыманні хабараў на працягу дзесяці гадоў у памеры «не менш за 22,2 тысячы рублёў».

**Грошы забіраў Кіскін і частку сумы перадаваў гендырэктару – у іх была дамоўленасць, што Бурскі атрымлівае 25% хабару.**

Хабарадавальнікам паказаны гендырэктар маскоўскай кампаніі «Аптапрам-ІТ» Аляксей Фамін. Ён прапанаваў кіраўніцтву «БелОМА» рабіць камплектуючыя для траўматычных пісталетаў «Аса», якія збіраюць на заводзе ў Сергіевым Пасадзе.

### Як усё пачыналася

У 2008 годзе суазаснавальнік кампаніі «Аптапрам-ІТ» Ігар Карніцкі парэкамендаваў Фаміну сустрэцца з Бурскім і абмеркаваць пытанні супрацоўніцтва. Да 1992 года Карніцкі быў першым намеснікам міністра абароннай прамысловасці СССР, а потым заснаваў кампанію «Аптычная тэхніка і тэхналогія», якая займалася выпускам пластыкавых пасведчанняў і сістэм уліку кіроўцаў, аўтатранспарту і дарожна-транспартных здарэнняў у Расіі. «У свой час ён часта бываў у Мінску ў складзе розных дэлегацый і выдатна ведаў магчымасці «БелОМА», – кажа Бурскі.

Бурскі сцвярджае, што тады пагодзіцца супрацоўнічаць з расійскай кампаніяй, калі гэта будзе выгадна беларускаму прадпрыемству. Спецыялісты «БелОМА» падлічылі эканоміку і ўбачылі выгаду, сцвярджае былы топ-менеджар. У 2009 годзе ў Мінск прыехалі Фамін і яшчэ два заснавальнікі «Аптапрам-ІТ» Ігар Карніцкі і Уладзіслаў Ганчароў, і ўдзельнікі дамовіліся.

Расійскія бізнесмены папрасілі Бурскага забяспечыць рытмічнасць паставак, каб «ні ў якім разе не дапусціць зрываў тэрмінаў паставак па буйных кантрактах». Аляксей Фамін паабяцаў штоквартальна дзякаваць беларускім партнёрам за вырашэнне тэхнічных пытанняў.

### Як перадавалі хабары

Схема перадачы хабараў выглядала наступным чынам. Падчас камандзіровак у Маскву Уладзімір Кіскін сустракаўся з Фаміным і атрымліваў ад яго грошы, а потым, прыехаўшы ў Беларусь, перадаваў Бурскаму 25% атрыманай сумы, а астатнімі грашыма распараджаўся, як хацеў. Як патлумачыў Бурскі на адным з допытаў, яны размеркавалі долі такім чынам, бо «Кіскін больш рызыкаваў», атрымліваючы грошы ад расійскай кампаніі.

**Былога кіраўніка «БелОМА» затрымалі ў канцы студзеня 2019 года. Кіскін тады вярнуўся з Масквы з чарговай порцыяй падзякі.**

– Ён прыйшоў да мяне ў кабінет і напісаў на паперы «20 тысяч» і знак пытання. Потым жэстам паказаў, каб я гэту паперку парваў і выкінуў, – распавёў сілавікам Бурскі, піша tut.by. – Затым [Кіскін] пайшоў у банк і памяняў расійскія рублі на долары. Пасля абеду ён вярнуўся да мяне і перадаў грошы. Я іх паклаў у кішэню штаноў. Далей мы пяць хвілін размаўлялі на працоўныя тэмы, і Кіскін сышоў. Пасля гэтага ў мой кабінет зайшлі работнікі КДБ і заявілі, што я затрыманы па падазрэнні ў атрыманні хабару. Мне прапанавалі выдаць незаконна атрыманыя сродкі, і я аддаў 299 долараў.

Падчасператрусу ў кватэры і гаражы Вячаслава Бурскага сілавікі знайшлі 73 тысячы долараў. Ён казаў, што адкладваў грошы з заробку. «Рыхтаваўся да выхаду на пенсію і мяняў грошы на долары, каб была хоць нейкая грашовая падушка бяспекі», – казаў былы дырэктар «БелОМА».

### Да хабару ставіліся, як да падарунка

Былы гендырэктар «БелОМА» сцвярджае, што ад 2009 да 2019 атрымаў ад кіраўніка «Аптапрам-ІТ» прыкладна 4,7 тысячы долараў. Колькі зарабіў Кіскін, ён не ведае. Пры гэтым Бурскі не ўспрымаў гэтыя грошы як хабар, а лічыў «падарункам за вырашэнне тэхнічных пытанняў». Толькі следчыя змаглі яго пераканаць, што гэта быў хабар.

– Я ставіўся да гэтага як да падарунка. Не надаваў гэтаму значэння. Ну якія там сумы былі? 100-500 долараў. У мяне зарплата была 4000 долараў, – кажа былы кіраўнік.

**– Я працаваў 48 гадоў на прадпрыемстве. Прайшоў вялікі шлях, апошнія 27 гадоў па 12 гадзін у суткі працаваў і вось здзейсніў такое... Ганьбу пераЖыць складана.**

Бурскі папрасіў суд улічыць шматгадовую працу ў холдынгу, узнагароды з рук Аляксандра Лукашэнкі, узрост і стан здароўя, а таксама раскаянне і не пазбаўляць волі.

«Дурны быў. Толькі гэтым магу растлумачыць свае дзеянні», – сказаў Бурскі на адным з допытаў у КДБ.

**Сваю віну беларускія топ-менеджары прызналі цалкам.**

Раней пракурор запрасіў шэсць і пяць гадоў пазбаўлення волі для Бурскага і Кіскіна адпаведна. Але пры гэтым прасіў улічыць шэраг змякчальных абставінаў. Гэта здзяйсненне злачынства састарэлай асобай: Бурскаму 73 гады, Кіскіну – 72. Таксама – дапамогу следству ў раскрыцці іншых удзельнікаў злачынства і выплату дзяржаве незаконна атрыманага даходу.

Бурскі і Кіскін збіраюцца абскардзіць прыгавор суда. Пакуль прыгавор не ўступіў у законную сілу.

**Паводле tut.by і kp.by.**

# Мінскае аддзяленне Беларускай чыгункі інфармуе: **ад 25 да 28 лістапада рамантуюць чыгуначны мост паміж станцыямі Ждановічы і Ратамка**

УНП 600199541

У сувязі з рамонтам чыгуначнага моста **паміж станцыямі Ждановічы і Ратамка** ад 25 да 28 лістапада 2019 г. **скразнога руху** цягнікоў рэгіянальных ліній эканамкласа і гарадскіх ліній ад станцыі Ждановічы да станцыі Ратамка і назад **НЕ БУДЗЕ.**

Цягнікі рэгіянальных ліній эканамкласа і гарадскіх ліній адпраўленнем ад ст. Мінск-Пасажырскі ў перыяд работ будуць ісці да ст. Ждановічы і назад.

Перавозіць пасажыраў **з/на цягнікі рэгіянальных ліній эканамкласа** паміж станцыямі Ждановічы і Ратамка будуць аўтобусы з прыпынкамі па запатрабаванні на аўтобусным прыпынку «Мінскае Мора».

Праезд у аўтобусах – па чыгуначных білетах.

• Перавозка пасажыраў аўтобусамі з/на цягнікі гарадскіх ліній паміж станцыямі Ждановічы і Ратамка рабіцца не будзе.

• Пераканаўча просім на перыяд работ ад 25 да 28 лістапада 2019 года ўстрымацца ад паездак чыгуначным транспартам на дадзеным участку.

• У выпадку неабходнасці паездкі просім вас улічыць, што яе працягласць у гэты дзень павялічыцца.

• Інфармацыю аб раскладзе руху цягнікоў удакладняйце, калі ласка, на станцыях, прыпыначных пунктах, у кантакт-цэнтры Беларускай чыгункі па тэлефоне 105, на сайце www.rw.by да пачатку паездкі.

## Расклад руху аўтобусаў з перасадкай на цягнікі рэгіянальных ліній эканамкласа на перыяд работ

**25.11.2019**

| **Прыбыццё цягнікоў** на станцыю Ждановічы | **Адпраўленне аўтобусаў** ад станцыі Ждановічы | **Прыбыццё аўтобусаў** на станцыю Ратамка | **Адпраўленне цягнікоў** ад станцыі Ратамка |
|---|---|---|---|
| 11.10 | 11.20 | 11.50 | 12.00 |
| 12.30 | 12.40 | 13.10 | 13.22 |
| 14.00 | 14.10 | 14.40 | 14.50 |
| 15.55 | 16.05 | 16.35 | 16.45 |
| 22.34 | 22.45 | 23.15 | 23.25 |

| **Прыбыццё цягнікоў** на станцыю Ратамка | **Адпраўленне аўтобусаў** ад станцыі Ратамка | **Прыбыццё аўтобусаў** на станцыю Ждановічы | **Адпраўленне цягнікоў** ад станцыі Ждановічы |
|---|---|---|---|
| 12.15 | 12.25 | 12.55 | 13.05 |
| 14.15 | 14.25 | 14.55 | 15.05 |
| 16.14 | 16.25 | 16.55 | 17.05 |
| 22.49 | 23.00 | 23.30 | 23.40 |
| 23.36 | 23.45 | 00.15 (26.11.2019) | 00.35 (26.11.2019) |

**26.11.2019 і 27.11.2019**

| **Прыбыццё цягнікоў** на станцыю Ждановічы | **Адпраўленне аўтобусаў** ад станцыі Ждановічы | **Прыбыццё аўтобусаў** на станцыю Ратамка | **Адпраўленне цягнікоў** ад станцыі Ратамка |
|---|---|---|---|
| 00.18 | 00.30 | 01.00 | 01.10 |
| 10.05 | 10.15 | 10.45 | 11.03 |
| 12.30 | 12.40 | 13.10 | 13.22 |
| 14.00 | 14.10 | 14.40 | 14.50 |
| 15.55 | 16.05 | 16.35 | 16.45 |
| 22.34 | 22.45 | 23.15 | 23.25 |

| **Прыбыццё цягнікоў** на станцыю Ратамка | **Адпраўленне аўтобусаў** ад станцыі Ратамка | **Прыбыццё аўтобусаў** на станцыю Ждановічы | **Адпраўленне цягнікоў** ад станцыі Ждановічы |
|---|---|---|---|
| 10.45 | 11.01 | 11.31 | 11.42 |
| 12.15 | 12.25 | 12.55 | 13.05 |
| 14.15 | 14.25 | 14.55 | 15.05 |
| 16.14 | 16.25 | 16.55 | 17.05 |
| 22.49 | 23.00 | 23.30 | 23.40 |
| 23.36 | 23.45 | 00.15 | 00.35 |

**28.11.2019**

| **Прыбыццё цягнікоў** на станцыю Ждановічы | **Адпраўленне аўтобусаў** ад станцыі Ждановічы | **Прыбыццё аўтобусаў** на станцыю Ратамка | **Адпраўленне цягнікоў** ад станцыі Ратамка |
|---|---|---|---|
| 00.18 | 00.30 | 01.00 | 01.10 |
| 10.50 | 11.00 | 11.30 | 11.52 |
| 13.35 | 13.45 | 14.15 | 14.33 |
| 15.55 | 16.05 | 16.35 | 16.45 |
| 22.34 | 22.45 | 23.15 | 23.25 |

| **Прыбыццё цягнікоў** на станцыю Ратамка | **Адпраўленне аўтобусаў** ад станцыі Ратамка | **Прыбыццё аўтобусаў** на станцыю Ждановічы | **Адпраўленне цягнікоў** ад станцыі Ждановічы |
|---|---|---|---|
| 11.34 | 11.50 | 12.20 | 12.30 |
| 14.15 | 14.30 | 15.00 | 15.10 |
| 16.14 | 16.25 | 16.55 | 17.05 |
| 22.49 | 23.00 | 23.30 | 23.40 |

## Расклад руху цягнікоў рэгіянальных ліній эканамкласа 25.11.2019

| Маладзечна-Ратамка-Мінск | | | | Мінск-Ратамка-Маладзечна | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **№ цягніка** | Час адпраўлення | Час прыбыцця | | **№ цягніка** | Час адпраўлення | Час прыбыцця | |
| **6102** | 04:15 | 06:00 | б.п.Селівонаўка | **6101** | 00:45 | 02:25 | б.п. Татаршчызна, Селівонаўка |
| **6104** | 05:11 | 06:58 | | **6103** | 04:40 | 06:11 | б.п. Мінскае Мора, Крыжоўка, Зялёнае, Хмелеўка, Анусіна, Вязынка, Пралескі да Гудагая |
| **6106** | 05:34 | 07:22 | па рабочых днях | **7031** | 05:24 ад Мін.П. | 06:53 | б.п. Мінскае Мора, Ратамка, Крыжоўка, Зялёнае, Хмелеўка, Анусіна, Вязынка, Пралескі, Раманы |
| **6108** | 05:48 | 07:34 | ад Гудагая | **6105** | 05:26 | 07:10 | |
| **6110** | 06:47 | 08:44 | | **6107** | 06:25 | 08:20 | да Гудагая |
| **7032** | 07:14 | 08:28 | з прып. Фест., Ждан., Леб., Масюк., Мінск-П. | **6109** | 07:23 | 09:25 | |
| **6112** | 07:34 | 09:22 | ад Гудагая | **6111** | 08:01 | 10:03 | назначаецца |
| **6114** | 09:11 | 11:08 | | **6113** | 08:48 | 10:46 | |
| **6116** | 09:54 | адмена | | **6115** | 09:46 | 11:40 | |
| **6120** | 10:55 | 12:15 | да ст. Ратамка | **6117** | 12:00 ад ст.Ратамка | 13:22 | |
| **6122** | 12:52 | 14:15 | раней, чым па графіку да ст. Ратамка | | | | |
| **6124** | 14:53 | 16:14 | ад ст.Солы ў 13:30 да ст. Ратамка | **6119** | 13:22 ад ст.Ратамка | 14:44 | |
| **6126** | 15:56 | 17:51 | раней, чым па графіку | **6121** | 14:50 ад ст.Ратамка | 16:10 | да Гудагая адпр. 16:12 |
| | | | | **6123** | 15:38 | адмена | |
| **6128** | 16:47 | 18:42 | | **6125** | 16:45 ад ст.Ратамка | 18:06 | да Гудагая |
| **6130** | 17:28 | 19:39 | | **6127** | 17:34 | 19:19 | |
| **6132** | 19:21 | 21:14 | | **7035** | 18:11 | 19:26 | Мінск–Маладзечна з прып. Мінск-П.,-Масюк.,п.п.Леб., Ждан., Фест., далей да Гудагая адпр.19:30 з прып. па ст. і п.п.Заскавічы, п.п. Маладзёжны, Каменка |
| **7034** | 19:50 | 21:27 | з прып. па станцыях і п.п.Фест., Ждан., Леб., Масюк., Мінск-П. | **6129** | 18:18 | 20:02 | да Гудагая |
| **6136** | 20:22 | 22:27 | раней, чым па графіку | **6131** | 19:17 | 21:12 | да ст. Солы па станцыях і п.п. Заскавічы, Маладзёжны |
| **6196** | 21:28 | 22:49 | да ст. Ратамка з усімі прыпынкамі | **6133** | 20:44 | 22:36 | |
| **6138** | 22:22 | 23:36 | ад Гудагая б.п. Раманы, Пралескі, Хмелеўка, Зялёнае Крыжоўка да ст. Ратамка | **6135** | 23:25 ад ст.Ратамка | 00:42 | б.п. Татаршчызна, Селівонаўка |

**Гудагай-Мінск:** адпр. ад ст. Гудагай **08:33**, прыб. на ст. Маладзечна **09:52 назначаецца** ў шляхі зносін **Гудагай-Маладзечна**

## Расклад руху цягнікоў рэгіянальных ліній эканамкласа 26, 27.11.2019

| Маладзечна-Ратамка-Мінск | | | | Мінск-Ратамка-Маладзечна | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **№ цягніка** | Час адпраўлення | Час прыбыцця | | **№ цягніка** | Час адпраўлення | Час прыбыцця | |
| **6102** | 04:05 | 06:00 | раней, чым па графіку б.п.Селівонаўка | **6101** | 01:10 ад ст.Ратамка | 02:25 | б.п. Татаршчызна, Селівонаўка |
| **6104** | 05:13 | 07:05 | | **6103** | 05:00 | 06:33 | б.п. Мінскае Мора, Крыжоўка, Зялёнае, Хмелеўка, Анусіна, Вязынка, Пралескі да Гудагая 06:42 |
| **6106** | 05:34 | 07:29 | па рабочых днях | **7031** | 05:24 с Мін.П. | адмена | |
| **6108** | 05:48 | 07:45 | ад Гудагая ў 04:21 | **6105** | 05:26 | 07:10 | |
| **6110** | 06:47 | 08:53 | | **6107** | 06:25 | 08:20 | да Гудагая 08:44 |
| **7032** | 07:14 | 08:36 | з прып. Фест., Ждан., Леб., Масюк., Мінск-П. | **6109** | 07:35 | 09:25 | |
| **6112** | 07:34 | 09:27 | ад Гудагая ў 06:00 | **6111** | 08:19 | 10:11 | назначаецца |
| **6114** | 09:11 | 10:45 | да ст. Ратамка | **6113** | 08:55 | 10:46 | |
| **6116** | 09:54 | адмена | | **6115** | 09:46 | адмена | |
| **6120** | 10:55 | 12:15 | да ст. Ратамка | **6117** | 11:17 | адмена | |
| **6122** | 12:52 | 14:15 | раней, чым па графіку да ст. Ратамка | **6771** | 11:03 ад ст.Ратамка | 12:24 | назначаецца |
| **6124** | 14:53 | 16:14 | ад ст.Солы ў 13:30 да ст. Ратамка | **6119** | 13:22 ад ст.Ратамка | 14:44 | |
| **6126** | 15:56 | 17:51 | раней, чым па графіку | **6121** | 14:50 ад ст.Ратамка | 16:10 | да Гудагая 16:12 |
| | | | | **6123** | 15:38 | адмена | |
| **6128** | 16:47 | 18:42 | | **6125** | 16:45 ад ст.Ратамка | 18:06 | да Гудагая |
| **6130** | 17:28 | 19:39 | | **6127** | 17:34 | 19:19 | |
| **6132** | 19:21 | 21:14 | | **7035** | 18:11 | 19:26 | Мінск–Маладзечна з прып. Мінск-П., Масюк., п.п.Леб., Ждан., Фест., далей да Гудагая з прып.па ст.і п.п.Заскавічы, п.п. Маладзёжны, Каменка |
| **7034** | 19:50 | 21:27 | з прып. па станцыях і п.п.Фест., Ждан., Леб., Масюк., Мінск-П. | **6129** | 18:18 | 20:02 | да Гудагая |
| **6136** | 20:22 | 22:27 | раней, чым па графіку | **6131** | 19:17 | 21:12 | да ст. Солы па станцыях і п.п. Заскавічы, Маладзёжны да ст.Солы |
| **6196** | 21:28 | 22:49 | да ст. Ратамка з усімі прыпынкамі | **6133** | 20:44 | 22:36 | |
| **6138** | 22:22 | 23:36 | ад Гудагая б.п. Раманы, Пралескі, Хмелеўка, Зялёнае, Крыжоўка да ст. Ратамка | **6135** | 23:25 ад ст.Ратамка | 00:42 | б.п. Татаршчызна, Селівонаўка |

**Маладзечна-Солы:** адпр. ад ст.Маладзечна **12:06**; прыб. на ст. Солы **13:06**;
**Маладзечна-Гудагай:** адпр. ад ст.Маладзечна **06:42**, прыб. на ст.Гудагай **08:06,** адпр. ад ст.Маладзечна **08:44**, прыб. на ст.Гудагай **10:07**
**Гудагай-Мінск:** адпр. ад ст.Гудагай **08:33**, прыб. на ст.Маладзечна **09:52 назначаецца** ў шляхі зносін **Гудагай-Маладзечна**

## Расклад руху цягнікоў рэгіянальных ліній эканамкласа 28.11.2019

| Маладзечна-Ратамка-Мінск | | | | Мінск-Ратамка-Маладзечна | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **№ цягніка** | Час адпраўлення | Час прыбыцця | | **№ цягніка** | Час адпраўлення | Час прыбыцця | |
| **6102** | 04:05 | 06:00 | раней, чым па графіку б.п.Селівонаўка | **6101** | 01:10 ад ст.Ратамка | 02:25 | б.п. Татаршчызна, Селівонаўка |
| **6104** | 05:13 | 07:05 | | **6103** | 05:00 | 06:33 | б.п. Мінскае Мора, Крыжоўка, Зялёнае, Хмелеўка, Анусіна, Вязынка, Пралескі, да Гудагая 06:42 |
| **6106** | 05:34 | 07:29 | па рабочых днях | **7031** | 05:24 ад Мін.П. | адмена | |
| **6108** | 05:48 | 07:45 | ад Гудагая ў 04:21 | **6105** | 05:26 | 07:10 | |
| **6110** | 06:47 | 08:58 | | **6107** | 06:25 | 08:20 | да Гудагая 08:44 |
| **7032** | 07:14 | 08:36 | з прып. Фест., Ждан., Леб., Масюк., Мінск-П. | **6109** | 07:35 | 09:29 | |
| **6112** | 07:29 | 09:25 | раней, чым па графіку ад Гудагая ў 05:51 | **6111** | 08:01 | 10:38 | назначаецца |
| **6114** | 09:11 | адмена | | **6113** | 08:49 | 11:27 | |
| **6116** | 09:54 | адмена | | **6115** | 09:46 | адмена | |
| **6994** | 10:00 | 11:34 | назначаецца да ст. Ратамка | **6771** | 11:52 ад ст.Ратамка | 13:32 | назначаецца |
| **6120** | 10:55 | адмена | | **6117** | 11:17 ад ст.Ратамка | адмена | |
| **6122** | 12:52 | 14:15 | раней, чым па графіку да ст. Ратамка | | | | |
| **6124** | 14:53 | 16:14 | ад ст.Солы ў 13:35 да ст. Ратамка | **6119** | 12:59 ад ст.Ратамка | адмена | |
| **6126** | 15:56 | 17:51 | раней, чым па графіку | **6121** | 14:33 ад ст.Ратамка | 16:10 | да Гудагая ў 16:12 |
| | | | | **6123** | 15:38 | адмена | |
| **6128** | 16:47 | 18:42 | | **6125** | 16:45 ад ст.Ратамка | 18:06 | да Гудагая |
| **6130** | 17:28 | 19:39 | | **6127** | 17:34 | 19:19 | |
| **6132** | 19:21 | 21:14 | | **7035** | 18:11 | 19:26 | Мінск–Маладзечна з прып. Мінск-П., Масюк., п.п.Леб., Ждан., Фест., далей да Гудагая з прып.па ст.і п.п.Заскавічы, п.п. Маладзёжны, Каменка |
| **7034** | 19:50 | 21:27 | з прып. па станцыях і п.п.Фест., Ждан., Леб., Масюк., Мінск-П. | **6129** | 18:18 | 20:02 | да Гудагая ў 20:34 |
| **6136** | 20:22 | 22:27 | раней, чым па графіку | **6131** | 19:17 | 21:12 | да ст. Солы па станцыях і п.п. Заскавічы, Маладзёжны да ст.Солы |
| **6196** | 21:28 | 22:49 | да ст. Ратамка з усімі прыпынкамі | **6133** | 20:44 | 22:36 | |
| **6138** | 22:22 | адмена | | **6135** | 23:25 ад ст.Ратамка | 00:42 | б.п. Татаршчызна, Селівонаўка |

**Маладзечна-Солы:** адпр. ад ст.Маладзечна **12:06**, прыб. на ст.Солы **13:06**
**Маладзечна-Гудагай:** адпр. ад ст. Маладзечна **16:12**, прыб. на ст.Гудагай **17:35**; **Гудагай-Мінск:** адпр. ад ст.Гудагай **08:33**, **21:06,** прыб. на ст.Маладзечна **09:52; 22:17назначаецца** ў шляхі зносін **Гудагай-Маладзечна**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

** Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце* Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Шаўрале-Матыз у выдатным стане. Т. (8-029) 9139773.

• Дыскі-штампоўкі (жалеза) R14 (4х108), 4 шт., сталі на Ford Escort, 55 руб. Т. (8-033) 366-81-81.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• Запчасткі б/у да Фіят-Тэмпра, 1993 г.в., 1,6 мона. Т. (8-044) 4703638.

• Запчасткі для Ford Escort 6 (1995-2000): дзверы ў зборы, капот, фара, заднія ліхтары (універсал), люстэрка, упускны калектар, інжэктар (1.6 Zetec), дажджавік. Усё ў добрым стане, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 1477209.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 1236722, (8-033) 3265724.*

• Аўто легкавое, грузавое, бус. Можна аварыйныя. Т. (8-029) 5677052.*

• Аўто! Іншамарку! У любым стане. Т. (8-029) і (8-044) 7769900.*

## СПАЧУВАННЕ

Прыёмшчыкі заказаў і шафёр В.К. Рыснік Валожынскага РКБА выказваюць шчырае спачуванне Мары Міхайлаўне Розум і яе сям'і з прычыны напаткаўшага іх вялікага гора – смерці мужа, бацькі, дзядулі, зяця **Розума Юрыя Сяргеевіча.**

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Аляхновічах па вул. Маладзёжнай, д.22, 42 кв. м, 2 паверх 5-павярховага дома, 2013 г.п., з еўрарамонтам. Т. (8-029) 7668199.*

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 6405133.*

• 2-пакаёвая кватэра ў а.г. Аляхновічы па вул. Маладзёжнай, д.10, 54 кв. м, 1 паверх 5-павярховага дома, цалкам гатовая да пражывання. Т. (8-029) 7668199.*

• 2-пакаёвая светлая кватэра ў Маладзечне з рамонтам і мэбляй у выдатным раёне, 51,1/28,5; 8,8; 6/9. Т. (8-029) 3997088.*

• 2-пакаёвая светлая кватэра ў Маладзечне з рамонтам і мэбляй у выдатным раёне, 51,1/28,5; 8,8; 6/9. Т. (8-029) 3997088.*

• Гараж у ГБК-2, Вілейка, нядорага. Т. МТС (8-033) 6611354.*

• Дом у аг. Лук'яновічы Мядзелскага раёна. Т. (8-029) 1792956.

• Дом у Маладзечне, 100 кв. м, 0,06 га, 2 газавыя катлы, хлеўчык, гараж, калонка ў двары. Т. (8-044) 5749372.

### КУПЛЮ

• Участак са старым домам у Вілейцы. Т. (8-033) 3359650 МТС, Аляксандр.*

### ЗДАМ

• Пакой і 1-пакаёвую кватэру ў Маладзечне. Т. (8-029) 5719435.*

### НАЙМУ

• 1-пакаёвую кватэру ў Маладзечне, тэрмінова. Тэл. (8-033) 6451110.

## ПАСЛУГІ

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАР**. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты, гідрабур пад фундамент на палях (свайные фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044)5522028.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважын) дыяметрам 32 мм, 63 мм, 90 мм і 125 мм. Работы выконваем магутнай малагабарытнай устаноўкай. Спецыялісты атэставаныя на тэрыторыі РБ. Магчымы выезд для кансультацыі. Кошт работы ад 40 рублёў м/п. ІП Субат П.І. УНП 692010733. Т. (8-029) 8331245, (8-044) 5486213.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• **МАНТАЖ-ДЭМАНТАЖ** дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт камп'ютараў, ноўтбукаў, манітораў, планшэтаў. ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года**.** ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі**.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Сталяр-цясляр, лесвіцы, лазня, дамы, матэрыялы. ІП Кароль М.Ф. УНП 690689147. Т. (8-029) 6937096.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

• Цэгла віцебская, вогнетрывалая, пячное ліццё, кладачныя сумесі. Т. (8-029) 8351640, (8-044) 7557072.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



• Антэна спадарожнікавая. Т. (8-029) 5019550.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Карова дойная, 5 год. Т. (8-029) 6393772.*

**Іншае**

• Дровы (абрэзкі), сасна, елка, 20-25 см, 10 куб.м, 25 рублёў за 1 куб.м. Дровы яблыні, 10 куб. м, 50 рублёў за 1 куб. м. Т. (8-044) 5770044.*

• Дровы нядорага, дастаўка бясплатна. Т. (8-029) 6106061.

• Дровы. ІП Мамай Ю.А. УНП 691895935. Т. Вэлком (8-029) 3301964, МТС (8-029) 8177983.*

• Сена. (8-029) 6870898.*

• Электраводанагравальнік. Т. (8-029) 9139773.

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-029) 2572438.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Ціскі, можна няспраўныя. Т. (8-029) 8794563.*



### ЗГУБЛЕНА

• 18 лістапада каля 14 гадзін у прыбіральні на 5 паверсе ГАЦ «Тройка» быў пакінуты на непрацаглы тэрмін **СМАРТФОН СЯОМІ РЭДМІ НОУТ 4Х у ФІЯЛЕТАВЫМ ЧАХЛЕ.** Таго, хто знайшоў смартфон, **ПЕРАКАНАЎЧА ПРАШУ ВЯРНУЦЬ ЗА ЎЗНАГАРОДУ**. Звяртацца можна ў **РЭДАКЦЫЮ «РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГАЗЕТЫ»** альбо па тэлефонах: (8-029) 6768420 Вэлком, (8-029) 5732847 МТС, Жанна.*

• Пасведчанне на імя Юрэвіча Уладзіміра Уладзіміравіча УНП 691505215 лічыць несапраўдным.



Удзельнікі канцэрта.

# У садку зладзілі канцэрт на беларускай мове

СМАРГОНЬ

**18 лістапада ў смаргонскім яслях-садку правялі канцэрт «Беларуская мова – мелодыя сэрца».**

Такія канцэрты натхняюць маленькіх грамадзян да выхавання ў сабе імкнення зберагаць гэты нацыянальны скарб: гаварыць па-беларуску правільна, не цурацца роднай мовы, не абражаць яе.

**Канцэртныя нумары закружылі гледача і акунулі ў атмасферу сяброўства.**

Гледачы хорам падпявалі артыстам беларускія песні і шчодра ўзнагароджвалі іх апладысментамі. Свята атрымалася вясёлае.

Педагогі нашага садка лічаць, што гарманічнае развіццё чалавека немагчымае без фарміравання ў яго самасвядомасці, самапавагі, нацыянальнай годнасці. Кожны павінны ведаць сваю родную мову, шанаваць яе, умець спяваць свае народныя песні, танцаваць народныя танцы, гуляць у гульні, ведаць святы і традыцыі свайго народа, любіць родныя мясціны і ўсю Беларусь.

**Тацяна ВАСІЛЕЎСКАЯ,**
**намеснік загадчыка па асноўнай дзейнасці ясляў-сада №13 Смаргоні.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**



Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна:

| | |
|---|---|
| Астравец | -01591 |
| Ашмяны | -01593 |
| Валожын | -01772 |
| Вілейка | -01771 |
| Маладзечна | -0176 |
| Мядзел | -01797 |
| Смаргонь | -01592 |

## Ашмянцы атрымалі бясплатныя кантэйнеры для смецця

АШМЯНЫ

**Ад сярэдзіны кастрычніка жыхарам прыватнага сектара Ашмянаў на бязвыплатнай аснове Ашмянскае РУП ЖКГ выдае кантэйнеры для збору смецця.**

Кантэйнер чорнага колеру прызначаны для бытавых адходаў, кантэйнер жоўтага колеру – для другасных матэрыяльных рэсурсаў. Да іх адносіцца пластык, шкло і папера.

Начальнік участка санітарнай ачысткі і добраўпарадкавання горада Ашмянскага РУП ЖКГ **Аляксандр Клушэўскі** распавёў, што прадпрыемства атрымала 4266 кантэйнераў.

Ужо выдадзена 1800, але ашмянцы забіраць смеццевыя кантэйнеры не спяшаюцца. Выдача іх праходзіць па адрасе: вул. Чкалава, 19, з 8:00 да 18:00 штодня. Магчымая дастаўка транспартам РУП ЖКГ па заяўцы па тэлефоне 115. Для атрымання кантэйнераў пры сабе трэба мець пашпарт.

Раздзельны збор смецця ў Ашмянах будзе весціся ўжо з пачатку новага года, калі РУП ЖКГ набудзе спецыяльныя смеццявозы. Спецыяліст упэўнены, што дадзенае рашэнне спросціць працу камунальнікам і дапаможа павялічыць збор другасных матэрыялаў.

Пры правільным сартаванні смецця і бытавых адходаў многія з іх можна выкарыстоўваць для перапрацоўкі або атрымання энергіі. Атрымліваецца, што дзякуючы своечасоваму сартаванню смецця спажывец эканоміць сродкі, якія былі б затрачаныя на далейшую перапрацоўку або вываз смецця на звалку.

– Не кожны чалавек гатовы сартаваць смецце. Многія думаюць, што за іх гэта павінны рабіць хтосьці іншы. Некаторыя гараджане лічаць: адходы можна выкідаць у агульны кантэйнер, а на спецыяльных пунктах сартавання разбяруцца. Праблема ў тым, што з несартаванага смецця можна атрымаць у разы менш другасных сыравіны, – тлумачыць **Клушэўскі**.

**Паводле osh.by.**

# За стары тэлевізар дадуць кніжкі, торбы, нататнікі

ВІЛЕЙКА

**28 лістапада ў Вілейцы ўрачыста адкрыюць пляцоўку для часовага захоўвання адходаў электрычнага і электроннага абсталявання і іншых другасных матэрыяльных рэсурсаў.**



За старое электраабсталяванне вілейчукам дадуць падарункі.

У дзень адкрыцця ГУП «Вілейскае ЖКГ» праводзіць акцыю па абмене старой бытавой тэхнікі і выкарыстаных батарэек на падарункі.

Урачыстае адкрыццё і акцыю з раздачай падарункаў правядуць ад 10:30 да 12:00 па адрасе: Вілейка, вуліца Чапаева 67.

З'яўленне пляцоўкі для часовага захоўвання электрычнага і электроннага абсталявання і іншых матэрыяльных рэсурсаў дасць жыхарам Вілейкі магчымасць здаць на перапрацоўку старыя тэлевізары, халадзільнікі, чайнікі і іншыя рэчы, якія ўжо прыйшлі ў непрыдатнасць і толькі займаюць месца дома або на лецішчы.

Практыка стварэння пунктаў для збору адходаў, якія можна адправіць на перапрацоўку, шырока распаўсюджаная ў Еўропе. У Беларусі аналагічныя пляцоўкі ёсць толькі ў некалькіх гарадах, сярод якіх Мар'іна Горка і Бабруйск.

Паасобны збор і перапрацоўка адходаў дазваляюць зменшыць негатыўны ўплыў чалавека на навакольнае асяроддзе.

28 лістапада старыя электрапрыборы будуць абменьваць на шакаладкі, дзіцячыя кніжкі, сумкі, нататнікі. Вілейчукоў запрашаюць да ўдзелу. Таксама можна будзе зрабіць сэлфі на фоне білбордаў з экалагічнымі слоганамі і малюнкамі, якія выкарыстаны ў афармленні пляцоўкі.

Мерапрыемства праводзяць у рамках праекта «Патрэба ў эфектыўным кіраванні жыллёва-камунальнай гаспадаркай», што фінансуецца Еўрапейскім саюзам.

**Аддзел інфармацыі.**




# Чыгунка – зона павышанай небяспекі

**Паважаныя чытачы! Чыгунка – гэта зона павышанай небяспекі, дзе галоўным траўмуючым фактарам быў і застаецца наезд рухомага саставу, высокае напружанне ў кантактным праводзе. Таму знаходжанне людзей у зоне чыгункі можа быць смяротна небяспечным.**

Але ёсць людзі, якія, гледзячы на плакаты, што прапагандуюць Правілы бяспекі грамадзян пры знаходжанні ў зоне павышанай небяспекі, усё адно працягваюць іх парушаць. Больш за ўсё здзіўляе тое, што так робяць дарослыя, якія падаюць прыклад сваім дзецям і ўнукам, забываючы, што, у канчатковым выніку, яны рызыкуюць жыццём.

Дзіцячы траўматызм выклікае асаблівую трывогу ва ўмовах развіцця высакахуткаснага руху. Бо дзеці не заўсёды могуць ацаніць рэальную небяспеку. Грэбуючы існуючай забаронай, некаторыя з іх самастойна знаходзяцца на чыгуначных пуцях, чапляюцца за аўтасцэпкі і падножкі вагонаў. Свавольства не застаецца непакараным, дзеці атрымліваюць траўмы рознай цяжкасці і, як правіла, застаюцца інвалідамі.

Ад пачатку 2019 года па Маладзечанскай дыстанцыі пуці былі шэсць выпадкаў траўмавання грамадзян на чыгуначных пуцях:

• у студзені на перагоне Палачаны-Валожын цягнік наехаў на мужчыну, які ляжаў на рэйкавай каляіне на шляху руху цягніка;

• у лютым былі два выпадкі траўмавання:

• на п.п. «Зялёнае» быў траўмаваны мужчына, цела якога знайшлі ў дзесяці метрах ад пасадачнай платформы;

• на чыгуначным пераездзе станцыі Уша быў траўмаваны мужчына, які пераходзіў па пешаходным пераходзе чыгуначнага пераезда ў непасрэднай блізкасці ад цягніка, які набліжаўся;

• у ліпені на перагоне Радашкавічы-Дубравы быў траўмаваны мужчына, які знаходзіўся ў каляіне чыгуначнага пуці спінай да цягніка;

• у жніўні на перагоне Маладзечна-Уша траўмаваны падлетак, які выехаў на чыгуначны пераезд на ровары пры забараняльных сігналах сігналізацыі;

• у лістападзе на перагоне Ратамка-Крыжоўка адбыўся наезд цягніка на мужчыну, які пераходзіў чыгуначныя пуці ва неўстаноўленым месцы.

Усе выпадкі траўмавання грамадзян адбыліся па прычыне незахавання правілаў знаходжання на чыгуначных пуцях і ўласнай безадказнасці і неасцярожнасці ў зоне павышанай небяспекі паблізу чыгункі на перагонах і станцыях.

Аналіз няшчасных выпадкаў з грамадзянамі, не звязанымі з вытворчасцю, паказаў, што колькасць няшчасных выпадкаў застаецца высокай, і гэта выклікае сур'ёзную трывогу за жыццё і здароўе людзей, якія карыстаюцца чыгуначным транспартам і якія жывуць каля чыгункі.

### Правілы бяспечных паводзін на чыгуначным транспарце:

1. Пераходзьце чыгуначныя пуці толькі ва ўстаноўленых месцах, па насцілах, а таксама ў месцах, дзе ўсталяваны ўказальнікі «Пераход праз пуці».

2. Перад пераходам праз пуці па пешаходным насціле пераканайцеся ў адсутнасці рухомага цягніка, лакаматыва, вагонаў.

3. Пры набліжэнні цягніка, лакаматыва ці вагонаў спыніцеся, прапусціце іх і, пераканаўшыся ў адсутнасці рухомага саставу на суседніх пуцях, ідзіце далей.

4. Падыходзячы да чыгуначнага пераезда, уважліва сачыце за светлавой і гукавой сігналізацыяй, а таксама становішчам шлагбаума. Пераходзіць пуці можна толькі пры адкрытым шлагбауме, а пры яго адсутнасці, перш чым перайсці пуці, неабходна пераканацца, ці не набліжаецца да пераезда цягнік, лакаматыў або вагон.

5. Садзіцеся ў вагоны і выходзьце з вагонаў толькі пасля поўнага спынення цягніка з боку пасадачнай платформы.

**ЗАБАРАНЯЕЦЦА:**

1. Хадзіць па чыгуначных пуцях.

2. Пераходзіць і перабягаць праз чыгуначныя пуці перад блізка ідучым цягніком, калі адлегласць да яго менш за 400 метраў.

3. Пераходзіць праз пуці адразу ж пасля праходжання цягніка аднаго кірунку, не пераканаўшыся ў адсутнасці руху цягніка па сустрэчнаму кірунку.

4. Выходзіць з вагона на міжпуцці і стаяць там пры праходзе сустрэчнага цягніка.

5. На станцыях і перагонах падлазіць пад вагоны і пералазіць праз аўтасцэпкі для праходу праз пуці.

6. На электрыфікаваных участках набліжацца да неабгароджаных правадоў або частак кантактнай сеткі і паветраных ліній электраперадач (ПЛ), падымацца на электраапоры.

7. Набліжацца да электраправаду, які ляжыць на зямлі, бліжэй за 8 метраў.

8. Праходзіць уздоўж чыгуначнага пуці бліжэй за 5 метраў ад крайняй рэйкі.

9. Падлазіць пад закрыты шлагбаўм на чыгуначным пераездзе, а таксама выходзіць на пераезд, калі шлагбаўм пачынае закрывацца.

10. Ездзіць на дахах, падножках, пераходных пляцоўках вагонаў.

11. Высоўвацца з вокнаў вагонаў і дзвярэй тамбураў на хаду цягніка.

12. Заходзіць за лінію бяспекі ля краю пасажырскай платформы.

13. Скакаць з платформы на чыгуначныя пуці.

14. Наладжваць на платформе розныя рухомыя гульні.

15. Праходзіць па чыгуначных мастах і тунэлях, якія не прызначаныя для пераходу пешаходаў.

16. Бегчы па платформе побач з вагонам цягніка, які прыбывае ці адыходзіць, а таксама знаходзіцца бліжэй за два метры ад краю платформы падчас праходжання цягніка без прыпынку;

17. Пакідаць без нагляду дзяцей на пасадачных платформах і ў вагонах.

18. Правозіць у вагонах лёгкаўзгаральныя і выбуховыя рэчывы.

19. Курыць у вагонах (у тым ліку ў тамбурах) прыгарадных цягнікоў, ва не ўстаноўленых для курэння месцах у цягніках мясцовых і далёкіх шляхоў зносін.

Паважаныя чытачы газеты! Мы хочам вам усім пажадаць здароўя, і каб вы заўсёды выконвалі правілы паводзін на чыгунцы, не падвяргалі сваё жыццё і тых, хто побач, небяспецы, не праходзілі міма дзяцей, якія парушаюць правілы паводзін на аб'ектах чыгуначнага транспарту. Дзякуй!

**З павагай, начальнік Маладзечанскай дыстанцыі пуці С.Л.Матрашыла.**

УНП 600199567

## Беларусь 1

**6.20** Існасць.

**6.50** Х/ф **«ИСЦЕЛЕНИЕ».**

**8.25** Кулинарная дипломатия.

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** Маршрут построен.

**9.45** Здоровье.

**10.35** Старое – новое.

**11.15, 12.10** Х/ф **«СУХАРЬ».**

**15.15** Краіна.

**15.45** «Кухня жизни». Кулинарная программа.

**16.20** Х/ф **«РАЗБИТЫЕ СЕРДЦА».**

**20.00** «Макаёнка, 9». Субботнее шоу.

**21.00** Панорама.

**21.45** Х/ф **«ЗЛОУМЫШЛЕННИЦА».**

**1.10** День спорта.

## Беларусь 2

**7.00** «Свадебный размер». Реалити-шоу.

**7.55** Т/с **«ПИНГВИНЫ ИЗ МАДАГАСКАРА».**

**9.10, 21.05** Телебарометр.

**9.15** Х/ф **«ГУБКА БОБ».**

**10.40** «Кто я?».

**11.05** Копейка в копейку.

**11.40** Камень, ножницы, бумага.

**12.15** «Подиум». Фэшн-шоу.

**13.15** «Свадьба вслепую». Реалити-шоу.

**14.50** Х/ф **«ЗДРАВСТВУЙ, ПАПА, НОВЫЙ ГОД!».**

**16.30** «Орел и Решка. Перезагрузка». Трэвел-шоу.

**17.25** «Любовь на выживание». Романтическое реалити-шоу.

**19.05** Х/ф **«КОВБОИ ПРОТИВ ПРИШЕЛЬЦЕВ».**

**21.10** Спортлото 6 из 49, КЕНО.

**21.15** «Человек-невидимка». Реалити- шоу.

**22.15** Х/ф **«ОГРАДЫ».**

## Беларусь 3

**7.25, 13.20, 20.15** Навіны культуры.

**7.45, 13.40, 20.35** Гэты дзень.

**7.50** «Забытая мелодыя для флейты». Мастацкі фільм [СТ].

**10.00** «Жывая культура». Традыцыйная тэхналогія пляцення лапцей (вёскі Дрыбінскага раёна, Магілёўская вобласць).

**10.25** «Беларуская кухня». Юца.

**11.00** «Народны майстар». Алена Гурэцкая.

**11.25** «Начальнік Чукоткі». Мастацкі фільм.

**12.55** «Навукаманія».

**13.45** «Першы дзень міру». Мастацкі фільм.

**15.20** «Сваімі словамі». Тэлевіктарына.

**16.05** «Турэцкі гамбіт». Мастацкі фільм [СТ].

**19.45** «Культурны рэпартаж». Ваенна-гістарычная рэканструкцыя «Бярэзіна-2019».

**20.00** «Суразмоўцы». Аўтарскі праект пісьменніка Навума Гальпяровіча. Госць – паэтка Наста Кудасава.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Паездка праз горад». Мастацкі фільм [СТ].

**22.10** «Стэп». Мастацкі фільм.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** «Играй, гармонь любимая!».

**8.00** Премьера. «Александр Годунов. Его будущее осталось в прошлом».

**9.10** Х/ф **«СУЕТА СУЕТ».**

**10.45** «Галина Польских. По семейным обстоятельствам».

**11.40** «Идеальный ремонт».

**12.40** Т/с **«ПЯТЫЙ ЭТАЖ БЕЗ ЛИФТА».**

**16.20** «Кто хочет стать миллионером» с Дмитрием Дибровым.

**17.55** Премьера ОНТ: «Талент краіны».

**20.00** «Наши новости». Субботний выпуск.

**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».

**21.10** «Сегодня вечером».

**23.20** Х/ф **«МАМА, Я ЖЕНЮСЬ!».**

**1.05** Премьера. «Гарик Сукачёв. Носорог без кожи».

## СТВ

**6.20** «Пища богов».

**7.55** «Анфас».

**8.15, 23.15** Документальный проект.

**9.05** СТВ представляет: «Тайны Беларуси».

**10.00** «Минск и минчане».

**10.30** «Центральный регион».

**11.00** Документальный спецпроект.

**12.50, 13.40, 16.40** Т/с **«РОЗЫСК-3».**

**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».

**19.55** «СТВ-спорт».

**20.05** Т/с **«КОГОТЬ ИЗ МАВРИТАНИИ-2».**

**0.00** Т/с **«МОСКОВСКАЯ БОРЗАЯ».**

## Мир

**6.00** «Миллион вопросов о природе».

**6.10** «Союзники».

**6.40** Мультфильмы.

**6.50** «Такие разные».

**7.20** «Секретные материалы».

**7.50** «Любовь без границ».

**8.55** «Ой, мамочки».

**9.25** «Наше кино. История большой любви».

**10.00, 16.00, 19.00** Новости.

**10.15** «Как в ресторане».

**10.45** «Мировые леди».

**11.20** Х/ф **«БРОНЗОВАЯ ПТИЦА».**

**15.30, 16.15, 19.15** Х/ф **«ТИХИЙ ДОН».**

**23.15** Х/ф **«ОПАСНО ДЛЯ ЖИЗНИ».**

**1.00** Х/ф **«КАРАСИ».**

**2.40** Х/ф **«ОХРАННИК ДЛЯ ДОЧЕРИ».**

**4.20** Мультфильмы «Маугли».



## НТВ-Беларусь

**6.05** «Астропрогноз».

**6.25** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.55** «Тело человека».

**7.30** «Дача».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «ЧП.by: Время итогов».

**8.50** «Города Беларуси».

**9.25** Премьера. «Врачебные тайны плюс».

**10.25** Главная дорога.

**11.00** «Еда живая и мёртвая».

**12.00** Квартирный вопрос.

**13.10** «Поедем, поедим!».

**14.05** Х/ф **«ОТСТАВНИК-3».**

**16.25** «Следствие вели…».

**19.00** «Центральное телевидение» с Вадимом Такменевым.

**20.35** Т/с **«СКОРАЯ ПОМОЩЬ».**

**0.35** «Таинственная Россия».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«ПЕТРОВКА, 38».**

**8.35** Х/ф **«ОТЦЫ И ДЕДЫ».**

**10.05** «Сто к одному».

**11.00** ВЕСТИ.

**11.20** «Пятеро на одного».

**12.15** «Наше дело».

**12.30** Х/ф **«ПОД ПРИЦЕЛОМ ЛЮБВИ».**

**14.35** ПРЕМЬЕРА. «Юмор! Юмор! Юмор!!!».

**16.10** Х/ф **«КАЧЕЛИ».**

**19.45** «Плюс-минус».

**20.00** ВЕСТИ В СУББОТУ.

**20.55** «Привет, Андрей!». Вечернее шоу Андрея Малахова.

**22.40** Х/ф **«ВКУС СЧАСТЬЯ».**

# кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 18.10** Джуманджи. **8.05** Погружение. **10.10** Игра Эндера. **12.20** Гадкий я. **14.05** Призрачный патруль. **15.55** Тайна семи сестёр. **20.10** Полночное солнце. **22.00** Чего хотят женщины. **0.20** Любовь с первого взгляда. **2.05** Предчувствие. **3.45** Голодные игры: И вспыхнет пламя.

### TV1000 ACTION

**7.05** Чёрная дыра. **9.05, 13.15** Поезд на Юму. **11.20** Рэмбо III. **15.30** Смертельная гонка. **17.25** Перевозчик: Наследие. **19.15** Большой куш. **21.10** Орёл Девятого легиона. **23.20** Ворон. **1.10** План побега. **3.10** Чёрный дрозд.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**8.15** Рубеж. **9.45** Подлец. **11.50** Храни меня, мой талисман. **13.10** Княжна Мери. **15.10** Кухня в Париже. **17.15** Смешанные чувства. **18.55** Спасти Ленинград. **20.45** Непрощённый. **22.50** Стальная бабочка. **0.45** Завод. **2.50** О чём говорят мужчины. Продолжение. **4.30** Кухня. Последняя битва.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **10.30** «Мама Russia». **11.30, 12.15** Т/с **«ОБМАНИ МЕНЯ». 13.15** Х/ф **«ПРОКЛЯТИЕ ДЕРЕВНИ МИДВИЧ». 15.15** Х/ф **«ЗЕЛЕНАЯ МИЛЯ». 19.00** Х/ф **«ШАКАЛ». 21.30** Х/ф **«МЕРКУРИЙ В ОПАСНОСТИ». 23.45** Х/ф **«12 ОБЕЗЬЯН». 2.15** Х/ф **«ИЗ МАШИНЫ». 4.15, 4.45, 5.15, 5.30** «Охотники за привидениями».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ВСЕГДА ГОВОРИ ВСЕГДА 5». 12.00, 13.00** Т/с **«ТАТЬЯНИНА НОЧЬ». 14.00, 15.00, 6.00, 7.00** Т/с **«МЕТОД ФРЕЙДА». 20.00, 21.00** Т/с **«Я-ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ. СТАРЫЕ СЧЕТЫ». 22.00, 23.00** Т/с **«ДЕТИ ВАНЮХИНА». 4.00, 5.00** Т/с **«УСЛОВИЯ КОНТРАКТА».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.00** Х/ф **«САМКА». 2.50** Х/ф **«ЖЕНЩИНЫ ПРОТИВ МУЖЧИН». 4.25** Х/ф **«СУПЕРМЕНЕДЖЕР, ИЛИ МОТЫГА СУДЬБЫ». 6.00** Х/ф **«ЖМУРКИ». 8.15** Х/ф **«ПЯТЬ НЕВЕСТ». 10.20** Х/ф **«(НЕ) ЖДАННЫЙ ПРИНЦ». 12.00** Х/ф **«КАК Я СТАЛ РУССКИМ». 13.55** Х/ф **«РОЖДЕСТВО С НЕУДАЧНИКАМИ». 15.50** Х/ф **«НЕВЕРОЯТНЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ ФАКИРА». 17.35** Х/ф **«ЧЕТЫРЕ КОМНАТЫ». 19.30** Х/ф **«ЛЮБОВНЫЙ МЕНЕДЖМЕНТ». 21.15** Х/ф **«КАК ЗАНИМАТЬСЯ ЛЮБОВЬЮ ПО-АНГЛИЙСКИ». 23.10** Х/ф **«СПРОСИТЕ СИНДИ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.55, 2.05, 21.05, 22.10, 23.15** Истоки. **3.00, 4.00, 4.45, 5.45, 6.40, 7.40** Зыбь. **8.35, 9.30, 10.25, 11.20, 12.15, 13.15, 14.10, 15.00** Принцип Хабарова. **16.00, 17.15, 18.25, 19.40** Бесы.

### ВТВ

**6.05** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.20** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **8.25** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.30** Мультфильм «РАЗВЛЕЧЁБА». **9.50** Мультфильм «ЦАРЕВНЫ». **10.15** Мультфильм «УТИНЫЕ ИСТОРИИ». **10.45** Кулинарное-шоу «ПРОСТО КУХНЯ». **11.20** Шоу «РУССКИЕ НЕ СМЕЮТСЯ». **12.20** Т/с **«СЧАСТЛИВЫ ВМЕСТЕ». 14.45** Х/ф **«ПАПА-МАМА ГУСЬ». 16.30, 18.35, 20.35, 22.10, 0.05** Прогноз погоды на неделю. **16.35** Х/ф **«НЕУДЕРЖИМЫЕ». 18.40** Х/ф **«НЕУДЕРЖИМЫЕ 2». 20.40** Шоу «ФОРТ БОЯРД». **22.15** Х/ф **«УСКОРЕНИЕ». 0.10** Ужасы «СЛЕНДЕРМЕН». **1.50** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **3.10** Шоу «САРАНХЭ». **4.05** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.40** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00, 13.25** Настольный теннис. Кубок мира. Мужчины. 1/8 финала. **10.30, 16.05** Азбука спорта. **10.40** Футбол. Лига Европы УЕФА. 5-й тур. Обзор. **11.40** Большой спорт. **12.25** Прыжки на батуте. Чемпионат мира. Синхронные прыжки. Финалы. Мужчины. Женщины. **15.00** Биатлон. Кубок мира. Эстерсунд. Одиночная смешанная эстафета. **16.15** Тренировочный день. **16.50** Биатлон. Кубок мира. Эстерсунд. Смешанная эстафета. **18.20** Гандбол. Лига чемпионов. Виве (Польша) – БГК им. Мешкова (Беларусь). **20.00** Футбол. Евро-2020. Жеребьевка. **21.00** Футбол. Чемпионат Англии. Саутгемптон – Уотфорд. В перерыве Спорт-центр. **22.20, 23.45** Пляжный футбол. Чемпионат мира. 1/2 финала. **23.35** Вот это спорт! **1.05** Футбол. Лига чемпионов УЕФА.

### EUROSPORT 1

**0.20** Олимпийские игры. «Вопреки всему». **0.50, 1.20** Олимпийские игры. «Момент триумфа». **1.55, 5.00, 9.00, 10.20** Лыжное двоеборье. Кубок мира. Рука. HS 142. **3.00, 6.00, 9.50** Лыжное двоеборье. Кубок мира. Рука. Гонка преследования. 5 км. **3.30, 7.30** Лыжные гонки. Кубок мира. Рука. Мужчины и женщины. Спринт. Классика. **6.30** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Рука. HS 142. Квалификация. **11.35** Лыжные гонки. Кубок мира. Рука. Женщины. 10 км. Классика. **13.00** Лыжные гонки. Кубок мира. Рука. Мужчины. 15 км. Классика. **15.00** Биатлон. Кубок мира. Эстерсунд. Одиночный микст. **15.50** Лыжное двоеборье. Кубок мира. Рука. Гонка преследования. 10 км. **16.30** Биатлон. Кубок мира. Эстерсунд. Смешанная эстафета. **18.15** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Висла. HS 142. **20.20** Горные лыжи. Кубок мира. Кллингтон. Женщины. Слалом-гигант. 1-я попытка. **20.50** Горные лыжи. Кубок мира. Кллингтон. Женщины. Слалом-гигант. 2-я попытка. **22.00** Горные лыжи. Кубок мира. Лейк-Луис. Мужчины. Скоростной спуск. **23.50** Настольный теннис. Кубок мира. Китай. Мужчины. 1/8 финала.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 6.30, 6.45, 7.00, 7.15, 7.30, 11.20, 1.05, 1.25, 1.40, 1.55, 2.15, 2.30** Назад в СССР. **6.15, 9.15, 12.15, 15.50, 18.30, 22.40, 0.55, 3.40** Итоговые новости. **7.45, 8.15, 8.45, 9.30, 2.45, 3.15** Возвращение легенды. **10.00, 10.30** Испытание на прочность. **11.00** Эконом-тест. **11.35, 11.55, 19.55, 20.15, 23.15, 23.30, 3.55** Экстрим 4х4. **12.30, 20.35, 23.50, 4.10** Самообслуживание. **12.50, 20.55, 0.10, 4.25** Сделано в России. **13.20, 21.25, 0.35, 4.55** Электродрайв. **13.35, 14.10, 14.45, 15.15** Сити тестер. **16.05, 21.45, 5.10** Своими руками. **16.35, 22.15, 5.35** Советы для каждого. **17.05** Проверка на дороге. **17.20, 22.55** Мото-тест. **17.35** Лошадиные силы. **17.55, 18.45, 19.25** Следующая остановка Северный полюс.

### EXPLORE

**6.15, 7.05, 7.55, 8.40** Переделка старья. **9.30, 10.20** Надсмотрщик. **11.05, 12.00, 12.50, 13.40, 14.30** Выживание в лесу. **15.20, 16.10** Короли разрушения. **17.00** Воздушная мега-доставка. **17.50** Лондонский супертуннель. **18.55, 19.40** Строительство гигантов. **20.30, 21.20, 22.15, 23.05, 23.55** Невероятная рыбалка. **0.50, 1.10** Охота на оленей. **1.35, 2.20, 3.10, 3.55, 4.45** Австралийские золотоискатели. **5.30** Нефритовая лихорадка.

### HISTORY

**6.05** Оружейники: искусство войны. **6.55, 9.25, 10.15, 4.25, 5.15** Музейные тайны. **8.20** Высадка на Луне: величайшая фальшивка в истории. **11.10** Рим: первая сверхдержава. **12.05, 13.05** Николай и Александра: последние монархи России. **14.05, 15.10** В поисках библейской истины. **16.15** Помпеи: 48 часов до катастрофы. **17.10** Китай времен Мао. **18.15** Великие воительницы викингов. **19.15** Частная жизнь. **20.10** Взрывная Земля. **21.10** Частная жизнь коронованных особ. **22.05** Обратный отсчет: строительство и падение Берлинской стены. **23.00** Возвращение Черной смерти. **0.00, 0.55, 1.50** Могилы викингов. **2.40, 3.35** Загадочные убийства: средневековье.

### NATURE

**6.15, 7.00, 7.50, 8.40** Ветеринар из глубинки. **9.25, 9.55, 10.20, 10.45, 11.10, 11.40** Уличный ветеринар. **12.05, 12.30, 12.55, 13.20, 13.45, 14.10, 14.35, 1.10, 1.35, 2.00, 2.25, 2.50, 3.15, 3.40, 4.05, 4.30, 4.55, 5.20** Природа в кадре. **15.00** Мир природы: леопарды – неестественная история. **15.55** Мир природы – ирбисы. **16.50, 17.45, 18.40** Один дикий день. **19.35, 20.30, 21.30, 22.30** Дикая Канада. **23.30, 0.20** Неукротимая Румыния.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Делай ставки и взрывай. **6.25, 5.10** Панорама 360. **7.15, 8.00** Служба спасения Аляски. **8.45** Авто – SOS. **9.35, 10.20** Ледяная дорога. **11.10** Внутри невероятной механики. **11.55** Прорыв. **12.40, 13.25** Непокорный остров. **14.10, 0.15, 1.05, 1.50** Международный аэропорт Дубай. **15.00, 15.45** Осушить океан. **16.35** Инженерные идеи. **17.25** Сооружения: Саграда Фамилья. **18.10** Мегаполисы. **19.00, 22.00** Суперсооружения Третьего рейха. **19.45** Линии Наски: Раскрытые тайны. **20.30, 21.15** Затерянные города с Альбертом Лином. **22.50** Дневник Анны Франк. **2.35, 3.20** Расследования авиакатастроф. **4.05** Крупнейший в мире ремонт. **4.55** Суперсооружения: чудеса инженерии. **5.40** Игры разума.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 22.30** Рецепты Древней Колхиды. **6.15, 22.45** Горная охота на кантабрийскую серну. **6.35, 23.10** Камский спиннинг. **7.05, 11.55, 17.55, 0.10** Рыбак-авантюрист. **7.50, 14.25, 19.25, 2.20** На рыбалку вместе с папой. **8.20, 19.55** По Якутии с Александром Борисовым. **8.55** На рыбалку с охотой. **9.25, 15.55, 21.00, 3.40** Кулинарное путешествие с Сержем Марковичем. **9.55, 21.25** Нож-помощник. **10.10, 21.40** Охотничьи собаки. **10.40, 22.10** Особенности охоты на Руси. **11.00, 17.20, 1.10, 5.05** В поисках лосося. **11.25, 18.55, 1.35, 5.35** Планета рыбака. **12.45, 18.40, 0.55** Дело вкуса. **13.00** Охотник-одиночка. **13.30** Спиннинг сегодня. **14.00** Охота в Приволжье. **14.55, 2.45** Научи меня рыбачить. **15.25, 20.30, 3.15** Нахлыст. **16.25, 4.10** Зимняя рыбалка в Удмуртии. **16.55, 4.40** Пофестивалим! **23.40** На зарубежных водоемах. **2.05** Охотничье оружие. Вопросы эксперту.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.00, 14.00, 22.15, 2.15** Фермерская жизнь. **6.45, 10.50, 14.50, 18.50, 23.05, 3.00** Кухня народов СССР. **7.00, 11.05, 15.05, 19.10, 23.20, 3.15** Да здравствует мыло душистое! **7.15, 11.20, 19.25, 23.35, 3.30** Беспокойное хозяйство. **7.45, 11.50, 15.50, 19.50, 0.05, 3.55** Профотбор. **8.15, 12.15, 16.20, 20.20, 0.35, 4.20** Лучки-пучки. **8.30, 12.30, 16.35, 20.40, 0.50, 4.35** Чужеземцы. **8.45, 12.45, 16.50, 20.55, 1.05, 4.50** Высший сорт. **9.05, 13.05, 17.05, 21.15, 1.20, 5.05** Побег из города. **9.30, 21.45, 1.45, 5.35** Секреты стиля. **13.30** Огород круглый год. **13.45** Огород круглый год. Осенние работы. **15.20** Фитоаптека с Виталием Декабрёвым. **17.35** Огород круглый год. **18.05** Деревянных дел мастер.

## Беларусь 1

**6.45, 16.10** Х/ф **«ИСЦЕЛЕНИЕ».**

**8.15** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.45** Истории спасения.

**10.25** «Все за стол!».

**11.15** Вокруг планет.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Кулинарная дипломатия.

**13.10** Х/ф **«ВОСЕМЬ БУСИН НА ТОНКОЙ НИТОЧКЕ».**

**15.15** Твой город.

**15.30** Маршрут построен.

**19.45** «На вылет!». Развлекательно-интеллектуальное шоу.

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.10** Х/ф **«РАЗБИТЫЕ СЕРДЦА».**

## Беларусь 2

**6.55, 20.10** «Орел и Решка. Перезагрузка». Трэвел-шоу.

**7.50** Т/с **«ПИНГВИНЫ ИЗ МАДАГАСКАРА».**

**8.15, 19.35** Телебарометр.

**8.20** «Секретный миллионер». Социальное реалити-шоу.

**9.30** «Верю не верю». Трэвел-шоу.

**10.25** «До свидания». Реалити-шоу.

**11.15** «Подиум». Фэшн-шоу.

**12.15** Х/ф **«КОВБОИ ПРОТИВ ПРИШЕЛЬЦЕВ».**

**14.20** Биатлон. Этап Кубка мира. Мужчины. Спринт.

**16.00** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.45** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** «Суперѫена». Реалити-шоу.

**22.10** «Третий лишний». Реалити-шоу.

**23.15** Х/ф **«МАЛАВИТА».**

## Беларусь 3

**7.30** «Святыні Беларусі».

**8.00, 16.05, 20.15** Навіны культуры.

**8.20, 16.25, 20.35** Гэты дзень.

**8.25** «Сказка о Золотом Петушке». Мультфільм.

**8.50** «Паездка праз горад». Мастацкі фільм [СТ].

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Банды на дубовым лісці.

**10.55** «Сваімі словамі». Тэлевіктарына.

**11.35** «Нацыянальны хіт-парад».

**12.25** «Турэцкі гамбіт». Мастацкі фільм [СТ].

**16.30** «Першы дзень міру». Мастацкі фільм.

**18.05** «Начальнік Чукоткі». Мастацкі фільм.

**19.35** «Фарбы памяці. Мікалай Залозны».

**20.00** «На вышыні». Музыкант Міхаіл Маркаў.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Забытая мелодыя для флейты». Мастацкі фільм [СТ].

**23.20** «Сто дзён з Купалаўскім».

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** «Здоровье».

**8.05** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.45** Х/ф **«МАМА, Я ЖЕНЮСЬ!».**

**11.25** «Видели видео?».

**13.35** Х/ф **«ПО СЕМЕЙНЫМ ОБСТОЯТЕЛЬСТВАМ».**

**16.20** ОНТ представляет: «Беларусь. Достояние Республики».

**17.05** Премьера. Звезды фигурного катания в ледовом шоу Ильи Авербуха.

**18.30** Шоу Максима Галкина «Лучше всех!» Новый сезон.

**20.00** «Контуры».

**21.20** Вячеслав Никонов и Дмитрий Саймс в программе «Большая игра».

**22.50** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**23.10** «Что? Где? Когда?». Осенняя серия игр. Финал.

**0.25** Концерт Гарика Сукачёва До 02.15.

## СТВ

**6.45** «Пища богов».

**8.25** Документальный проект.

**9.10** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.05, 22.50** Документальный спецпроект.

**12.50, 13.40, 16.40** Т/с **«РОЗЫСК-3».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**20.35** «Засекреченные списки».

**22.20** «Неделя спорта».

**0.25** Т/с **«ШПИОН».**

## Мир

**6.00** «Миллион вопросов о природе».

**6.10** «Беларусь сегодня».

**6.40** Мультфильмы.

**6.55** «Знаем русский».

**7.50** «Культ/туризм».

**8.20, 1.00** «Рожденные в СССР. Нурсултан Назарбаев».

**8.55** «Всемирные игры разума».

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.15** «С миру по нитке».

**10.50** «Игра в правду».

**11.50, 16.15, 19.30, 1.30** Т/с **«ВТОРОЕ ДЫХАНИЕ».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**3.30** Х/ф **«ТИХИЙ ДОН».**

## НТВ-Беларусь

**6.05** «Астропрогноз».

**6.25** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.55** «Тело человека».

**7.25** «Дача».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** Дело жизни. Возрождение.

**8.40** «Однажды...».

**9.20** «Кто в доме хозяин?».

**10.25** «Первая передача».

**11.00** «Чудо техники».

**11.55** «Дачный ответ».

**13.05** «НашПотребНадзор».

**14.05** «Секрет на миллион». Анна Семенович.

**16.20** «Следствие вели…».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.10** «Звезды сошлись».

**21.30** Ты не поверишь!

**22.35** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**23.10** Х/ф **«РОЗЫ ДЛЯ ЭЛЬЗЫ».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«ВКУС СЧАСТЬЯ».**

**10.30** «Смехопанорама».

**11.00** ВЕСТИ.

**11.20** «Сам себе режиссер».

**12.15** «Утренняя почта».

**13.00** Х/ф **«МАРУСЯ».**

**16.45** «Аллюр». Шоу Людмилы Родионовой.

**18.25** ПРЕМЬЕРА. «Всероссийский открытый телевизионный конкурс юных талантов «Синяя Птица».

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.15** ПРЕМЬЕРА. «В людях».

**21.55** Х/ф **«КРАСАВИЦА И ЧУДОВИЩЕ».**

**23.45** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**0.25** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**6.10** Семейное ограбление. **7.50** Чего хотят женщины. **10.20** В гостях у Элис. **12.05** Полночное солнце. **13.40** Голодные игры: И вспыхнет пламя. **16.15** Предчувствие. **18.00** Фрида. **20.10** Семейка Джонсов. **21.55** Области тьмы. **23.50** Реальные упыри. **1.30** Шпион, выйди вон! **3.50** Малышка на миллион.

### TV1000 ACTION

**7.10** Орёл Девятого легиона. **9.45** Большой куш. **11.40** Ворон. **13.20, 5.10** План побега. **15.20** Чёрный дрозд. **17.05** Безбашенные. **18.50** Легенда. **21.10** Апокалипсис сегодня (1979/2001). **0.45** Французский транзит. **3.20** Кровный отец.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.20** Смешанные чувства. **8.05** Непрощённый. **10.05** 4:0 в пользу Танечки. **11.45** Стальная бабочка. **13.45** Спасти Ленинград. **15.35** О чём говорят мужчины. Продолжение. **17.20** Кухня. Последняя битва. **19.25** Детки напрокат. **21.05, 5.30** День радио. **23.00** Русский Бес. **0.50** Подлец. **2.35** Особенности национальной охоты в зимний период. **4.00** Семь ужинов.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **11.15, 12.15** Т/с **«ОБМАНИ МЕНЯ». 13.15** «Охлобыстины». **14.15** Х/ф **«МЕРКУРИЙ В ОПАСНОСТИ». 16.30** Х/ф **«ШАКАЛ». 19.00** Х/ф **«НЕ ПОЙМАН – НЕ ВОР». 21.30** Х/ф **«КОНТРАБАНДА». 23.45** Х/ф **«ПРИКОНЧИ ИХ ВСЕХ». 1.45** «Мама Russia». **2.45** Х/ф **«ПРОКЛЯТИЕ ДЕРЕВНИ МИДВИЧ». 4.30, 5.00, 5.30** «Охотники за привидениями».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ВСЕГДА ГОВОРИ ВСЕГДА 5». 12.00, 13.00** Т/с **«ТАТЬЯНИНА НОЧЬ». 14.00, 15.00** Т/с **«ВРЕМЯ ЛЮБИТЬ». 20.00, 21.00** Т/с **«Я-ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ. ОШИБКА В ПРОГРАММЕ». 22.00, 23.00** Т/с **«ДЕТИ ВАНЮХИНА». 4.00, 5.00** Т/с **«УСЛОВИЯ КОНТРАКТА». 6.00, 7.00** Т/с **«МЕТОД ФРЕЙДА».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.45** Х/ф **«ХОЛОСТЯЧКИ». 2.20** Х/ф **«МОШЕННИКИ». 3.55** Х/ф **«БРАТЬЯ СИСТЕРС». 5.50** Х/ф **«НИНДЗЯ ИЗ БЕВЕРЛИ ХИЛЛЗ». 7.35** Х/ф **«БАРХАТНЫЕ РУЧКИ». 9.35** Х/ф **«ПРИНЦ И Я». 11.45** Х/ф **«НОВЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ АЛАДДИНА». 13.45** Х/ф **«СТАРСКИ И ХАТЧ». 15.45** Х/ф **«УКОЛ ЗОНТИКОМ». 17.40** Х/ф **«УКРОЩЕНИЕ СТРОПТИВОГО». 19.45** Х/ф **«ВЕЗУЧИЙ СЛУЧАЙ». 21.35** Х/ф **«ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ КИЛЛЕРА». 23.45** Х/ф **«ВДРЕБЕЗГИ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.20, 1.25, 2.25, 4.00, 4.55, 5.45, 6.40** Истоки. **7.40, 8.35, 9.30, 10.25, 11.20, 12.15, 13.10, 14.05** Принцип Хабарова. **15.00, 15.50, 16.50, 17.45, 18.45, 19.40, 20.40, 21.30** Чисто английские убийства. **22.35, 23.30** Сводные судьбы.

### ВТВ

**6.00, 7.15, 8.20, 9.10, 10.40, 12.15, 14.40, 17.10, 18.55, 20.30, 22.05** Прогноз погоды на неделю. **6.05** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.20** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **8.25** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **9.15** Мультфильмы «ВОЛШЕБНАЯ КНИГА». **9.30** Мультфильмы «РАЗВЛЕЧЁБА». **9.50** Мультфильмы «ЦАРЕВНЫ». **10.15** Мультфильмы «УТИНЫЕ ИСТОРИИ». **10.45** Шоу «САРАНХЭ». **11.45** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.20** Т/с **«СЧАСТЛИВЫ ВМЕСТЕ». 14.45** Х/ф **«НЕУДЕРЖИМЫЕ 3». 17.15** Х/ф **«ОЗ: ВОЗВРАЩЕНИЕ В ИЗУМРУДНЫЙ ГОРОД». 19.00** Шоу «ФОРТ БОЯРД». **20.35** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **22.10** Фэнтези «ПОСЛЕДНИЙ ОХОТНИК НА ВЕДЬМ». **0.10** Т/с **«МЕТОД ЛАВРОВОЙ». 2.05** Кулинарное-шоу «ПРОСТО КУХНЯ». **2.35** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.15** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Биатлон. Кубок мира. Эстерсунд. Одиночная смешанная эстафета. **8.00** Настольный теннис. Кубок мира. Мужчины. 1/2 финала. **9.25** Прыжки на батуте. Чемпионат мира. Финалы. Мужчины. Женщины. **10.25** Футбол. Чемпионат Англии. Ньюкасл – Манчестер Сити. **12.20** Биатлон. Кубок мира. Эстерсунд. Смешанная эстафета. **13.50** Хоккей. КХЛ. Барыс (Нур-Султан) – Динамо-Минск. **16.15** Биатлон. Кубок мира. Эстерсунд. Мужчины. Спринт. **17.20** Биатлон. Кубок мира. Эстерсунд. Женщины. Спринт. **18.45** Питстоп. **19.20** Футбол. Чемпионат Англии. Манчестер Юнайтед – Астон Вилла. В перерыве Спорт-центр. **21.20** Итоги недели. **22.05** Пляжный футбол. Чемпионат мира. Матч за 3-е место. **23.25** Футбол. Чемпионат Беларуси. Обзор тура. **0.00** Пляжный футбол. Чемпионат мира. Финал.

### EUROSPORT 1

**1.55** Настольный теннис. Кубок мира. Китай. Мужчины. 1/4 финала. **3.55, 7.00** Снукер. UK Championship. Йорк. Второй раунд. **5.00** Кёрлинг. Чемпионат Европы. Хельсингборг. **8.30** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Висла. HS 142. **9.30** Биатлон. Кубок мира. Эстерсунд. Смешанная эстафета. **10.30, 15.45** Лыжное двоеборье. Кубок мира. Рука. Гонка преследования. 10 км. **11.00** Лыжное двоеборье. Кубок мира. Рука. HS 142. **12.00** Лыжные гонки. Кубок мира. Рука. Женщины. Гонка преследования. 10 км. **12.50** Лыжные гонки. Кубок мира. Рука. Мужчины. 15 км. Классика. **13.20** Лыжные гонки. Кубок мира. Рука. Мужчины. Гонка преследования. 15 км. **14.15, 16.40** Биатлон. Кубок мира. Эстерсунд. Мужчины. Спринт. **17.20** Биатлон. Кубок мира. Эстерсунд. Женщины. Спринт. **18.45** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Рука. HS 142. **20.25** Горные лыжи. Кубок мира. Киллингтон. Женщины. Слалом. 1-я попытка. **20.55** Горные лыжи. Кубок мира. Киллингтон. Женщины. Слалом. 2-я попытка. **22.00** Горные лыжи. Кубок мира. Лейк-Луис. Мужчины. Супергигант. **23.45** Санный спорт. Кубок мира. Лейк-Плэсид. Мужчины. 1-я попытка.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 6.30, 7.00, 7.35** Сити тестер. **8.05, 10.50, 13.35, 16.25, 19.35, 0.40, 2.10, 4.35** Итоговые новости. **8.25, 8.40, 11.35, 13.55, 14.15, 14.35, 1.15, 1.30** Назад в СССР. **9.00, 9.30, 1.45, 2.25** Испытание на прочность. **10.00, 2.55** Эконом-тест. **10.20, 11.05, 14.50, 0.15, 3.10** Возвращение легенды. **11.55, 12.15, 19.55, 20.15, 23.15, 23.35, 3.35** Экстрим 4х4. **12.35, 20.35, 23.55, 3.55** Самообслуживание. **12.50, 20.55, 4.10** Сделано в России. **13.20, 21.25, 1.00** Электродрайв. **15.20, 21.45, 4.50** Своими руками. **15.50, 22.15, 5.15** Советы для каждого. **16.40, 23.00** Мото-тест. **16.55, 17.25** Норильск Диксон. Есть рекорд! **17.55, 18.45** Металлоломщики. **22.40, 5.45** Проверка на дороге.

### EXPLORE

**6.00, 6.25, 6.55** Битва за карпов. **7.20, 8.10, 9.05, 9.55, 10.50, 11.40** Речные чудовища. **12.35, 13.30, 14.25, 15.20, 16.15** Танковый биатлон. **17.10, 18.00, 18.50, 19.40, 20.30, 21.15, 22.05, 22.50** Австралийские золотоискатели. **23.35, 0.20** Поисковая команда в Австралии. **1.05, 1.55, 2.40, 3.25, 4.10** Выжить на Аляске. **4.55, 5.20** Нефритовая лихорадка.

### HISTORY

**6.00** Родовые проклятья. **6.25** Великие воительницы викингов. **7.20, 8.10** Невероятные изобретения. **8.40, 9.35** Тайны британских замков. **10.25, 11.25, 12.20** Американские принцессы на миллион долларов. **13.20, 14.15, 15.10** Елизавета I и ее враги. **16.05, 17.15, 18.30** Королевский двор изнутри. **19.40** Дети королевы Виктории. **20.55** Истории из королевской спальни. **22.00** 5000 лет истории Нила. **23.00** Обратный отсчет: строительство и падение Берлинской стены. **23.55, 0.50, 2.50, 3.45** Загадочные убийства: средневековье. **1.45, 2.20** Даты, вошедшие в историю. **4.35, 5.20** Музейные тайны.

### NATURE

**6.00** Мир природы – очковые медведи. **6.55, 7.55, 8.50** Львиная страна: ночь и день. **9.50, 10.45, 11.40, 15.55** Великая рифтовая долина – дикое сердце Африки. **12.35** Суперветеринар. **13.20, 13.50** Уличный ветеринар. **14.15** Ветеринар из глубинки. **15.00** Тайная жизнь слонов. **16.50** Великие миграции в природе. **17.45** Большой барьерный риф с Дэвидом Аттенборо. **18.40** Удивительное семейство псовых. **19.35** Огромные звери: последние из великанов. **20.30, 21.25, 22.20** Анатомия крупнейших животных. **23.10** Страна чудесных ископаемых – тайные сокровища природы. **0.05, 1.05** Эволюция в действии. **2.00, 2.25, 2.50, 3.15, 3.40, 4.05, 4.30, 4.55, 5.20** Природа в кадре.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Научные глупости. **6.20, 5.10** Делай ставки и взрывай. **6.45, 19.45** Панорама 360. **7.35, 8.15** Служба спасения Аляски. **9.00, 1.10, 2.00** Авто – SOS. **9.50, 10.35** Ледяная дорога. **11.20, 12.05** Настоящий гений со Стивеном Хокингом. **12.50, 13.35** Непокорный остров. **14.20** Международный аэропорт Дубай. **15.05, 15.55** Расследования авиакатастроф. **16.40** Служба безопасности аэропорта: Перу. **17.25** Служба безопасности аэропорта: Бразилия. **18.10, 22.55, 3.30** Службы безопасности портов: Гамбург. **19.00, 22.05, 2.45** Европа с высоты птичьего полета. **20.30** Сканируя время. **21.20, 21.40** Зона строительства. **23.40, 0.25** Осушить океан: глубокое погружение. **4.20** Крупнейший в мире ремонт. **5.35** Игры разума.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.55, 22.15** Фермерская жизнь. **6.45, 10.45, 14.55, 18.45, 23.05, 3.00** Кухня народов СССР. **7.00, 11.00, 15.10, 19.05, 23.20, 3.15** Да здравствует мыло душистое! **7.15** Огород круглый год. **7.50, 11.45, 15.55, 19.50, 0.05, 3.55** Профотбор. **8.20, 12.30, 20.40, 0.50, 4.35** Чужеземцы. **8.35, 12.45, 16.40, 20.55, 1.05, 4.50** Высший сорт. **8.55, 13.05, 17.00, 21.15, 1.20, 5.05** Побег из города. **9.25, 13.35, 17.30, 21.45, 1.45, 5.35** Секреты стиля. **11.15, 19.20, 23.35, 3.25** Беспокойное хозяйство. **12.15, 16.25, 20.20, 0.35, 4.25** Лучки-пучки. **14.05, 2.15** Деревянных дел мастер. **15.25** Огород круглый год. **15.40** Огород круглый год. Осенние работы. **18.00** Дома на деревьях.



Фота Язэпа СТАБРОЎСКАГА.

Вайсковыя могілкі на Беларусі падчас Першай сусветнай вайны. Так маглі выглядаць і маладзечанскія.

# Ад вайскоўцаў не засталося нават імёнаў

## Як і дзе з'явіліся могілкі часоў Першай сусветнай вайны ў Маладзечне

**Першая сусветная вайна завяршылася 101 год таму. Маладзечна таксама закранулі падзеі стагодовай даўніны – на тэрыторыі горада былі могілкі, якія не захаваліся да нашага часу.**

Маладзечна было мястэчкам, якому пашанцавала: тут у 1873 годзе з'явілася чыгуначная станцыя, якая дала штуршок у развіцці населенага пункта.

> **У гады Вялікай вайны станцыя Маладзечна мела важнае стратэгічнае значэнне. Яна была вузлавой, адсюль ішлі саставы на Мінск, Вільню, Полацк і Ліду.**

Невыпадкова Віленская аперацыя жніўня-верасня 1915 года мае некалькі назваў. Акрамя вядомай – Свянцянскі прарыў – у гістарыяграфіі аперацыю часта называюць Віленска-Маладзечанскай.

### У Маладзечне было некалькі вайсковых могілкаў

У пачатку верасня 1915 года за маладзечанскую станцыю некалькі дзён ішлі зацятыя баі. Загінулых і памерлых ад ран неабходна было хаваць. Так у Маладзечне з'явіліся воінскія пахаванні. У мястэчку і паблізу станцыі было некалькі месцаў, дзе хавалі вайскоўцаў.

Аб існаванні ваенных могілкаў сведчаць дакументы, якія захоўваюцца ў архівах Беларусі, Расіі, Літвы і Польшчы. Па архіўных дадзеных вядома, што воінскія магілы з'явіліся летам 1915 года. Буйныя воінскія пахаванні былі ў Маладзечне на прыходскіх могілках Пакроўскай царквы і на спецыяльна створаных вайсковых могілках каля чыгуначнай станцыі. Гэтыя могілкі не захаваліся да нашых дзён.

Сярод вядомых пахаваных былі авіятары 1-га карпуснога авіяцыйнага атрада штабс-капітан Фірсаў, Мітрафан Ізегаў і Іван Філін. Лётчык Мітрафан Ізегаў пачаў вайну ў складзе атрада механікам. Іван Філін быў у экіпажы назіральнікам. Увесь асабовы састаў прысутнічаў на пахаванні лётчыкаў. На магілах таварышаў па зброі замест крыжа па традыцыі авіятараў паставілі прапелер. Магілы патаналі ў шматлікіх вянках ад баявых таварышаў і кветках, прынесеных мясцовымі жыхарамі.

> **Усяго каля царквы было 69 магіл, некаторыя з іх – брацкія.**

На месцы могілкаў цяпер знаходзіцца сквер, у цэнтры якога стаіць толькі невялікая мураваная каплічка. Ад вайскоўцаў не засталося нават імёнаў.

### Могілкі каля станцыі

Каля маладзечанскай станцыі могілкі з'явіліся таксама летам 1915-га. Месца не было выпадковым. Санітарныя цягнікі і рухомыя ваенныя шпіталі праходзілі праз станцыю, а многія дзейнічалі там доўгі час. Пасля смерці раненых іх хавалі адразу на тым месцы. Прыходскія могілкі былі далекавата, а часу і сіл было мала. Таму прынялі рашэнне стварыць новыя могілкі побач са станцыяй. Акрамя вайскоўцаў там хавалі памерлых ад ран і хвароб не толькі салдат, але бежанцаў, ваеннапалонных і мясцовых жыхароў.

Падчас савецка-польскай вайны там таксама хавалі людзей. У 1934 годзе польская адміністрацыя стварыла каля станцыі вялікія вайсковыя могілкі. Яны вядомыя як Цівідаўка – па назве хутара, які знаходзіўся побач. Могілкі падзялілі на восем участкаў. Першы ўчастак быў для вайскоўцаў рускай, германскай і аўстрыйскай армій, якія загінулі ў Першую сусветную вайну. У 41 магіле пахавалі і перапахавалі з іншых могілкаў астанкі 1108 чалавек. Участкі з другога па восьмы прызначаліся для польскіх жаўнераў, якія загінулі ў вайне 1919-1920 гадоў. Усяго па польскіх дадзеных на могілках пахавалі 689 чалавек.

Мясцовыя жыхары ўспамінаюць, што падчас Другой сусветнай вайны на могілках хавалі чырвонаармейцаў. Яны памятаюць характэрныя пірамідкі з зоркамі наверсе і таблічкамі з імёнамі. На адным з іх нават быў прыбіты медаль «За адвагу».

### Страты Першай сусветнай вайны

За гады Першай сусветнай вайны Расійская імперыя мабілізавала каля 15 мільёнаў чалавек – 8,7% усяго насельніцтва краіны. Англія мабілізавала 10,7% ад насельніцтва краіны без калоній, Францыя – 17%, Германія – 20%.

Агульныя страты войска Расійскай імперыі да лютаўскай рэвалюцыі склалі 35% ад ліку мабілізаваных. У Англіі – 42%, Францыі – 47%, Германіі – 55%. У Аўстра-Венгрыі падчас вайны мабілізавалі 5% жыхароў краін. Усяго загінулі 1,2 мільёна чалавек, параненых было 3,6 мільёна – такі вынік Вялікай вайны пачатку XX стагоддзя.

**Генадзь МАЛЫШАЎ,**
**краязнаўца.**

● КАЛЯНДАР

22 ЛІСТАПАДА
**1954.** У Ільі нарадзілася **Святлана Марозава**, у дзявоцтве **Палуцкая**, беларускі гісторык, доктар гістарычных навук.



23 ЛІСТАПАДА
**1906.** У Вільні выйшаў першы нумар тыднёвіка на беларускай мове «Наша Ніва».

24 ЛІСТАПАДА
**1902.** У Барунах, цяпер Ашмянскі раён, нарадзіўся **Мікалай Арэхва**, дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, гісторык.



25 ЛІСТАПАДА
**1795.** Кароль польскі і вялікі князь літоўскі Станіслаў Аўгуст Панятоўскі адмовіўся ад стальца Рэчы Паспалітай на карысць расійскай імператрыцы Кацярыны II. Каралеўства Польскае і Вялікае Княства Літоўскае спынілі сваё існаванне.

26 ЛІСТАПАДА
**1812.** Пачалася пераправа Напалеона праз Бярэзіну.
**1891.** У в. Арляняты, цяпер Смаргонскі раён, нарадзіўся **Ян Станкевіч**, беларускі мовазнаўца, гісторык, палітычны дзеяч. Доктар славянскай гісторыі і філалогіі.



**1943.** Ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў вызвалены Гомель.

27 ЛІСТАПАДА
**1920.** Пачатак Слуцкага паўстання.

**Падрыхтаваў**
**Мікола ГАЙДУК.**

## Анхела

**Не расстраляйце мяне яшчэ, калі ласка. Паслухайце хоць тое, што я хачу сказаць. Па-першае, хоць мне здаецца, што я гэта ўжо даказвала дастаткова, адзначу – я вельмі люблю беларускую мову. Люблю і прыязджаць у Беларусь, і размаўляць з беларусамі на ўсе магчымыя тэмы. Амаль. Крыху раздражняе адзін момант – калі размовы і пытанні пачынаюць паўтарацца, хаця і гэта ў пэўнай меры непазбежна.**

# Чаму я не лічу беларускую мову мілагучнай

**Мой асаблівы статус як замежніцы, якая вывучыла беларускую мову і ўвайшла ў беларускую культурную прастору, спрыяе пытанням, дужа ўласцівым беларускаму народу.**

Пытанням аб тым, якое маё меркаванне пра беларусаў, беларускую мову, беларускую ежу, клімат (людзі чамусьці думаюць, што жарцік пра «а ты не мерзнеш?» вельмі арыгінальны і вясёлы; насуперак грамадскаму меркаванню, гэта не так), адрозненне паміж «нашымі народамі» (пра гэта пазней) і іншыя такія пункцікі. У самым пачатку ў мяне былі пэўныя складанасці падчас гэткіх размоў: па-першае, я горш валодала беларускай мовай і мне было цяжка выказваць свае думкі красамоўна і ясна; па-другое, я не разумела, што ад мяне чакаюць, і звычайна пагаджалася шмат з чым на аўтамаце, або ўсміхалася і ківала галавой. А не трэба было, і цяпер каюся.

Разумееце, нядаўна выйшла немалая колькасць артыкулаў пра абарону маёй доктарскай дысертацыі, якая адбылася 4 верасня 2019 года. Нехта з журналістаў (не ў «Рэгіянальнай газеце», дзе ўсе малайцы) вырашыў дадаць нешта сваё да агульнай інфармацыі амбасады, але, відаць, не меў часу задаваць пытанні мне непасрэдна і нагугліў усялякія банальнасці.

**Апублікавалі нешта ў духу «іспанка (у мяне шмат для каго з журналістаў уласнага імя няма, толькі грамадзянства. Або яны лічаць мяне хваробай, што таксама няблага. Спадзяюся, зразнай) абараніла дысертацыю. Блаблабла навуковыя рэчы. Беларускую мову яна лічыць мілагучнай».**

А ведаеце што? Ні ў якім разе.

Я зірнула, адкуль гэта магло быць, і сапраўды, было адно інтэрв'ю ў 2013 годзе, дзе проста спыталі, ці лічу беларускую мову мілагучнай. А я не хацела пакрыўдзіць і адказала станоўча. Хачу сказаць, што я тады не ведала пра распаўсюджаны стэрэатып аб мілагучнасці беларускай мовы, пра крутую гісторыю аб «другой самай мілагучнай мове пасля італьянскай» (дарэчы, ці ведалі вы, што пра ўкраінскую мову такую ж хлусню пішуць раз-пораз?) і пра канатацыі і наступствы гэтага сцвярджэння. І яны цалкам адмоўныя.

Калі дазволіце, я цяпер вярнуся да часоў сваёй вучобы ў Варшаўскім універсітэце. На другі год сваёй магістратуры я выбрала сабе даволі цікавыя факультатыўныя прадметы, сярод якіх быў курс французскамоўных літаратур Амерыкі. Там не толькі чыталі тэксты амерыканскіх аўтараў, якія пісалі па-французску, а таксама вывучалі тэорыю каланіялізму і посткаланіялізму ў якасці літаратурных рамак. Абмяркоўвалі ідэі Сартра, Фанона, Бгабга, іх тлумачэнні адносінаў паміж калоніямі і імперыямі, моўныя, этнічныя, літаратурныя, сацыяльныя, зрэшты, пытанні... Пры чым тут Беларусь, вы кажаце? Зараз паспрабую патлумачыць так, каб не было замнога навуковых спасылак.

Пачну з таго, як Гомі Бгабга, тэорык посткаланіялізму з Індыі, апісвае адносіны паміж імперыямі і каланізаванымі народамі, і роля пытання іншасці ў іх жа. Для Бгабга гэтыя заўжды няроўныя адносіны складаныя, маюць безліч нюансаў, і на іх уплываюць розныя фактары. Але, калі коратка, то каланізаваны народ і адмаўляецца ад імперыі (і ў гэтым – ад самаідэнтыфікацыі з імперыяй і, часткова, ад яе культуры), у той жа час жадае яе пазітыўнай ацэнкі. Гэтыя дваякія адносіны падтрымліваюцца... Ведаеце чым? Нацыянальнымі стэрэатыпамі! А патрэбныя такія, часткова пазітыўныя, каб каланізаваны народ паверыў у іх і ўспрыняў як праўду. І добрыя, і кепскія.

Мне вельмі падабаецца прыклад, які даваў Сартр з чорнай расай. Белыя прыдумалі да іх




**У тым, наколькі моцна Анхела любіць Беларусь і беларускую мову, чытачы «РГ» могуць не сумнявацца.**

пэўныя стэрэатыпы, а менавіта:

• Яны добра танцуюць, файныя музыкі, рытм у іх «у крыві» (пазітыўны стэрэатып).

• Яны маюць фізічную перавагу, жывёльную сілу (часткова пазітыўны: нібыта гэта і добра, але адначасова прыбліжае чорных людзей да жывёл).

• Яны не дужа адораныя інтэлектуальна (негатыўны).

Чорныя чуюць тое, што кажуць белыя (прывілеяваная група, у пэўным сэнсе «імперыя»). Ім падабаецца пазітыўнае абагульненне ў пачатку. Яны рады, што белыя бачаць нешта вартае ў іх, цэняць, думаюць, у белых, мо, добрыя намеры. Ход думак такі: «Ну так, гэта праўда, у нас музыка неверагодная, і, вядома, мы моцныя. Яны кажуць, што інтэлектуальна сяк-так... Ну, ім лепей бачна ж, цывілізацыя такая... Кожны ж мае свае моцныя і слабыя бакі, што паробіш». І ўсё – паверылі. Зусім не дапамагае факт, што стэрэатыпы змешваюцца з фетышызмам. Я не напішу тут, які «фетышысцкі» стэрэатып ёсць пра чорных мужчын, але дам падказку: ён таксама набліжае іх да жывёльнага вобразу.

Пры чым тут беленькія-бялюткія беларусы, спытаеце? Ну, не ўсе белыя прывілеяваныя гістарычна ж, а беларускі народ доўгі час не меў сваёй дзяржавы, затое змагаўся (не толькі на літаральнай вайне, а таксама на моўных і культурных войнах) з уплывовымі суседзямі на Захадзе і на Усходзе.

**Гэта паспрыяла пэўнаму недахопу самаўпэўненасці сярод беларусаў (я ненавіджу стэрэатыпы, але сама прасачыла такую тэндэнцыю), чым можна тлумачыць тое, чаму маіх беларускіх знаёмых так хвалюе тое, што я думаю аб іх (і што думаюць аб іх іспанцы).**

Давайце прааналізуем парачку папулярных стэрэатыпаў пра беларусаў?

• Беларуская мова мілагучная (нібыта пазітыўна гучыць, але зараз патлумачу, што да чаго).

• Беларусы – людзі цярплівыя і талерантныя (гэта часткова пазітыўна, але вызначэнне гэтага «цярпення» паказвае на тое, што беларусы не маюць уласнай ініцыятывы, ніколі не пойдуць на канфлікт, нават на патрэбны, і гатовыя трываць любую несправядлівасць са словамі «можа, так і трэба»).

• Беларусы – гэта такія калгаснікі, якія ядуць толькі бульбу (ноў комент).

Думаю, з другім і трэцім выпадкамі ўсё ясна, але, пэўна, вы думаеце, што нічога такога ў першым стэрэатыпе і няма.

**Па-першае, гэта фетышызм (не сэксуальны – эстэтычны). Па-другое, давайце паглядзім на пытанне з перспектывы таго, што ў Беларусі дзве дзяржаўныя мовы: «мілагучная» і «нармальная».**

Калі лічым беларускую мову «мілагучнай», мы надаём ёй псіхалагічныя і сацыяльныя абмежаванні: беларуская мова прыдатная для вершыкаў, літімпрэзаў і вясковых настаўніц «мовы». Для ўсіх іншых выпадкаў ёсць «нармальная» руская мова. Для ўсіх прагматычных сітуацый (бюракратыі, побыту, мацюкоў...) падыходзіць руская мова, а беларуская – гэта так, для прыгажосці. Мілагучная, але бедная і... мёртвая. «Няма ж тэхнічных слоў на беларускай», «немагчыма пісаць тэксты высокага ўзроўню па-беларуску». Чулі калі-небудзь? Паверылі?

**Таму і хачу вам сказаць: беларуская мова – розная. Так, яна можа быць мілагучнай у вершах, але і страшнай у злосці, пошлай у сэксе, нудотнай у побыце, вульгарнай сярод гопнікаў, простай у дзіцячых казках і незразумелай (для мяне) у матэматыцы. Мова як мова, у найлепшым сэнсе.**


**Анхела ЭСПІНОСА РУІС**
г. Малага (Іспанія)
паэтка,
доктар філасофіі ў галіне літаратуры
angeespi@ucm.es






Фота prikinews.co.uk.

Сын ударыў маці нажом у жывот, бо тая не хацела даваць яму грошы на выпіўку.

# П'яны сын пагражаў маці

МАЛАДЗЕЧНА

**Фігурантамі крымінальнай справы сталі жыхары Хатуцічаў – маці і сын.**

Чарговая сварка пачалася з-за грошай. Мужчына патрабаваў тры рублі на алкаголь, але маці вырашыла не даваць. Тады ён узяў кухонны нож і ўдарыў жанчыну ў жывот. Выратавала тое, што халодная зброя апынулася тупой, на целе маці засталася толькі драпіна.

Канфлікт на гэтым не скончыўся, а разгарэўся з большай сілай. У суседнім пакоі мужчына заўважыў вяроўку. Ён закруціў яе на шыі маці і пачаў душыць.

Жанчына пагадзілася даць грошы, каб сын яе адпусціў. Выбегла на вуліцу, але схавацца не паспела. Сын дагнаў, паваліў на зямлю і за рукі зацягнуў у дом. Жанчына дала грошы. Але гэта вырашыла канфлікт ненадоўга.

Дадому дэбашыр вярнуўся ўжо нецвярозы і з парога стукнуў маці кулаком у грудзі. На гэты раз выбіць грошы сын вырашыў з дапамогай качаргі. З ёй мужчына бегаў па вёсцы ў пошуках маці. Жанчына набрала «102».

Яна расказала міліцыянерам пра канфлікт з сынам, які цягнецца не адзін год. Ён увесь час патрабуе грошы, збівае і пагражае.

Прытулак жанчына перыядычна прасіла ў суседзяў. 37-гадовы дэбашыр неаднаразова прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці за сямейна-бытавыя скандалы. Акрамя таго, раней ён быў судзімы за ўчыненне цяжкага злачынства, прадугледжанага ч. 3 арт. 339 КК Рэспублікі Беларусь «Хуліганства».

Цяпер фігурант пад вартай. Яго дзеянні кваліфікаваныя па артыкуле 207 КК Рэспублікі Беларусь (разбой). Яму пагражае да дзесяці гадоў пазбаўлення волі.

**Прэс-служба Маладзечанскага РАУС.**

## Ва Ушы з-за печы згарэў дом

МАЛАДЗЕЧНА

Пажар здарыўся вечарам 16 лістапада.

Калі на месца прыехалі пажарныя, дом гарэў адкрытым полымем.

Агонь знішчыў дах, пашкодзіў знешнюю адздзелку з сайдынга.

Меркаваная прычына пажару – парушэнне патрабаванняў пажарнай бяспекі пры ўладкаванні ацяпляльных прыбораў. Верагодна, іскра трапіла на гаручыя будаўнічыя канструкцыі.

Каб пазбегнуць пажараў з-за печы, неабходна строга трымацца правілаў уладкавання і карыстання пячнога ацяплення.

**Марына ГАНЧАРОВА, Маладзечанскі ГРАНС.**

## У Маладзечне забыты кашалёк знайшлі, але не вярнулі

МАЛАДЗЕЧНА

Мужчына заявіў у міліцыю, што ў яго знік кашалёк з 600 рублямі і банкаўскімі карткамі. Супрацоўнікі крымінальнага вышуку ўстанавілі, што пацярпелы, знаходзячыся ў памяшканні гральнага клуба, забыўся кашалёк на гульнявым аўтамаце. Пакінутая без нагляду рэч прыцягнула ўвагу іншага наведніка ўстановы. Ім аказаўся беспрацоўны 44-гадовы жыхар Маладзечна. Грошы мужчына патраціў на выпіўку.

Аператыўнікі «па гарачых слядах» затрымалі падазраванага. У дзеяннях затрыманага праваахоўнікі ўгледжваюць прыкметы складу злачынства, пакаранне – да трох гадоў пазбаўлення волі.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Пройдзе суд па справе аб кантрабандзе гашышу

АСТРАВЕЦ

20 лістапада ў судзе Астравецкага раёна пачынаецца разгляд крымінальнай справы ў дачыненні да расіяніна за спробу ўвозу ў Беларусь 290 кг гашышу, паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе Гродзенскага абласнога суда.

Грамадзянін Расійскай Федэрацыі абвінавачваецца ў здзяйсненні злачынстваў, прадугледжаных ч.3 арт.328 КК (незаконныя з мэтай збыту набыццё, захоўванне і перавозка наркатычных сродкаў у буйным памеры, учыненыя групай асоб) і ч.2 арт. 328-1 КК (незаконнае перамяшчэнне праз мытную мяжу Еўразійскага эканамічнага саюза наркатычных сродкаў у буйным памеры, учыненае групай асоб па папярэдняй змове).

Справу расследавала Упраўленне Следчага камітэта па Гродзенскай вобласці. Як паведамлялася, мужчына на аўтамабілі перасякаў беларуска-літоўскую мяжу ў пункце пропуску «Катлоўка». Падчас мытнага кантролю ў машыне знайшлі схованку з 290 кг гашышу. Наркотыкі прызначаліся для збыту на тэрыторыі Расіі.

Пры расследаванні справы следчым накіроўвалася даручэнне аб аказанні прававой дапамогі кампетэнтным органам РФ, вялася актыўная сумесная праца з Інтэрполам.

**Паводле БелТА.**

## Кіроўца без правоў сутыкнуўся з фурай і загінуў, яго жонка ў бальніцы

МАЛАДЗЕЧНА
СМАРГОНЬ

Гродзенская абласная ДАІ паведаміла, што аварыя адбылася 16 лістапада ў 22:30 на 184-м кіламетры трасы Р63 Барысаў–Вілейка–Смаргонь–Ашмяны.

Там 41-гадовы кіроўца «Пежо» ўрэзаўся ў фуру «Вольва». Пасля сутыкнення абодва аўтамабілі з'ехалі ў кювет. Кіроўца «Пежо» памёр на месцы, яго жонка ў рэанімацыі.

Кіроўца «Пежо» рухаўся з боку Ашмянаў у кірунку Смаргоні, не справіўся з кіраваннем і выехаў на паласу сустрэчнага руху, там і адбылося лабавое сутыкненне яго аўтамабіля з «Вольвай».

Кіроўца грузавіка, ураджэнец Расійскай Федэрацыі 1979 года нараджэння, сур'ёзных траўмаў не атрымаў. Прычыны і іншыя абставіны здарэння будуць устаноўлены ў ходзе праверкі.

Ад атрыманых траўмаў кіроўца «Пежо» – 41-гадовы жыхар Маладзечанскага раёна – памёр на месцы здарэння.

**Паводле ДАІ Гродна.**

## Машына збіла раварыста. Той загінуў

СМАРГОНЬ

У Смаргонскім раёне легкавая машына насмерць збіла раварыста. Пра гэта БелТА паведамілі ва ўпраўленні ДАІ УУС Гродзенскага аблвыканкама.

Аварыя адбылася вечарам 17 лістапада недалёка ад вёскі Асіпаны. «Опель-Кадэт», якім кіраваў 26-гадовы кіроўца, збіў раварыста, які ехаў насустрач. Ад атрыманых траўмаў 31-гадовы жыхар Смаргонскага раёна памёр на месцы здарэння.

Усе абставіны здарэння высвятляюць. Вядома, што ровар быў абсталяваны святлоадбівальнымі элементамі спераду і ззаду.

**Паводле ДАІ Гродна.**

## У Смаргоні кіроўца збіў дзіця на ровары

СМАРГОНЬ

19 лістапада каля 18:00 у Смаргоні на вуліцы Леніна кіроўца «Вольвы» наехаў на 13-гадовага хлопчыка, які раптоўна выехаў на праезную частку дарогі паблізу з нерэгуляваным пешаходным пераходам. Падлетак з траўмамі і пераломам ключыцы быў дастаўлены ў бальніцу. Тое месца, дзе ехаў веласіпедыст да моманту аварыі, прычыны і іншыя абставіны здарэння будуць устаноўлены ў ходзе праверкі.

**УУС Гродзенскага аблвыканкама.**

## Быў у вышуку і збіраўся збегчы за мяжу. Смаргонскія памежнікі затрымалі ўцекача

АСТРАВЕЦ

18 лістапада ў Астравецкім раёне смаргонскія памежнікі затрымалі 34-гадовага жыхара Мінска. Малады чалавек збіраўся наўмысна незаконна трапіць у Літву.

У ходзе разбору высветлілася, што жыхар сталіцы знаходзіцца ў вышуку за ўхіленне ад адбыцця адміністрацыйнага арышту. Таксама ён з'яўляецца абвінавачаным па крымінальнай справе, і ў дачыненні да яго абраная мера стрымання ў выглядзе падпіскі аб нявыездзе.

Мужчына быў прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне мяжы і парушэнне пагранічнага рэжыму. Ён перададзены супрацоўнікам Астравецкага РАУС.

**Дзяржаўны памежны камітэт Беларусі.**

## Міліцыя затрымала ўгоншчыка і знайшла машыну

МАЛАДЗЕЧНА

14 лістапада ў 6:30 на лінію 102 у Маладзечанскі РАУС звярнуўся 60-гадовы жыхар Маладзечна. Па словах мужчыны, ад 17 гадзін 13 лістапада да 6:20 14 лістапада з двара дома па вуліцы Валынца скралі «Опель-Аскону».

Міліцыя знайшла машыну і затрымала ўгоншчыка, паведаміла карэспандэнту афіцыйны прадстаўнік Маладзечанскага РАУС **Юлія Крук.**

– Аўтамабіль «Опель-Аскона» скраў 20-гадовы маладзечанец, – расказала афіцыйны прадстаўнік. – Фігурант скраў машыну, каб прадаць яе на запчасткі. Аднак у вёсцы Лебедзева не справіўся з кіраваннем і з'ехаў у кювет. Там кінуў машыну і сышоў.

Падазраванага затрымалі дома. Спачатку даставілі ў міліцыю для разбору. А потым адпусцілі. Цяпер ён пад падпіскай аб нявыездзе і належных паводзінах.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Журналіст «Рэгіянальнай газеты» сярод пераможцаў у намінацыі «Гісторыя»

Узнагароджанне пераможцаў конкурсу «Найлепшае рэгіянальнае медыя» адбылося 15 лістапада.

Агулам у конкурсе 12 намінацый. У конкурсе ўдзельнічала больш за 200 конкурсных работ.

У кожнай з намінацый абіралі траіх фіналістаў, а сярод фіналістаў – аднаго пераможцу.

Журналіст «Рэгіянальнай газеты» **Зоя Хруцкая** стала фіналістам у намінацыі «Гісторыя». Журы адзначыла яе артыкул **«Можа, у тым вязе замураваная князёўна». Самы стары вяз у Беларусі сохне, пакуль людзі разбіраюцца з дакументамі.**

«Рэгіянальная газета» двойчы брала Гран-пры конкурсу і станавілася найлепшай рэгіянальнай газетай года – у 2015 і 2017 гадах.

Конкурс арганізуе Асацыяцыя рэгіянальнай прэсы «Аб'яднаныя Масмедыя».

## У Маладзечне пройдзе міжнародны фестываль мастацтваў

Першы міжнародны фестываль мастацтваў «Open MoloFantasy-2019» пройдзе ў Маладзечне.

Адкрыццё творчага форуму і выстава фотаработ у намінацыі «Лепшае фота» пройдуць ад 21 да 24 лістапада. Удзел прымуць прадстаўнікі з Беларусі, Славеніі, Польшчы, Украіны, Расіі. Арганізатар фестывалю – Цэнтралізаваная клубная сістэма Маладзечанскага раёна пры падтрымцы райвыканкама.

Урачыстае адкрыццё з беларускім каларытам адбудзецца 21 лістапада ў Цэнтры традыцыйнай культуры і побыту ў Плябані. Пачатак а 16 гадзіне.

У праграме першага этапа запланавалі экскурсіі па Маладзечанскім раёне, майстар-класы, выставы і іншыя культурна-забаўляльныя праграмы.

Ад 4 да 8 снежня ў Цэнтралізаванай клубнай сістэме пройдзе конкурсная праграма ў намінацыях: харэаграфія, інструментальная музыка, спевы, мастацкае слова, тэатральная творчасць, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота Святланы КУРЭЙЧЫК.

Рыгор Сарока кіруе сімфанічным аркестрам Маладзечанскага музычнага каледжа.

# Рыгор Сарока святкуе 75-годдзе: «Рухавік, з якога можна браць прыклад»

**Рыгор Сарока – дырэктар Маладзечанскага музычнага каледжа імя Міхала Клеафаса Агінскага, дырыжор сімфанічнага аркестра каледжа, ганаровы грамадзянін Маладзечаншчыны.**

Мы запрасілі некалькіх знаёмых маэстра павіншаваць яго з прыгожай датай.

### Талент кіраваць

Дырэктар фонду «Спадчына М.К.Агінскага», педагог-арганізатар музкаледжа **Алеся Каролік:**

– Перш-наперш для мяне Рыгор Сарока – яскравы прыклад сапраўднага патрыёта сваёй зямлі, мовы і культуры. Чалавек, які генеруе вялікую колькасць ідэй і рэалізуе шматлікія праекты. Апантаны, авантурны, смелы, спагадлівы – гэта толькі невялікая частка эпітэтаў, якімі можна яго ахарактарызаваць. Самае галоўнае для мяне – яго талент кіраваць навучальнай установай на працягу амаль 40 год. І яго ўменне аб'ядназць людзей з рознымі поглядамі і думкамі дзеля стварэння новага і цікавага. Пажадаць – здароўя і надалей заставацца кіраўніком нашага каледжа.

### Музкаледж, нібы музей

Заснавальнік і былы дырэктар мастацкай школы ў Маладзечне **Васіль Тархан** распавёў, як у каледжы з'явілася аддзяленне дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва:

– Маладзечна меў славу горада мастакоў, у нас столькі бліскучых імёнаў! І я падумаў, што павінна быць спецыялізаваная мастацкая вучэльня. Прыйшоў з ідэяй да тагачаснага мэра Генадзя Карпенкі, кажу, што хацеў бы адчыніць такую вучэльню. Ён адказвае: «А хто табе замінае?». Арганізаваў сустрэчу з намеснікамі міністраў адукацыі і культуры, справа пачалася. Але пасля спатрэбілася, каб гэту вучэльню перадалі пад крыло іншай установе.

**Яфім Ідэльчык прапанаваў Рыгору Сароку, кажа: «У цябе ж не вучэльня будзе, а лялька, усё такой прыгажосцю навучэнцы афармяць».**

Так яно і стала, музкаледж цяпер нібы той музей. Таму дзякуючы ў тым ліку Рыгору Сароку атрымалася выратаваць аддзяленне дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. З задавальненнем віншую яго з днём нараджэння! Нават падарунак ужо падрыхтаваў.

### Творца, Адміністратар, Чалавек

Дырэктар Мінскага абласнога драматычнага тэатра ў Маладзечне **Юры Крывенькі** ведае Рыгора Сямёнавіча з часоў навучэнства:

– Пасля заканчэння нашай музычнай школы я паступаў у музкаледж на аддзяленне духавых і ўдарных інструментаў. Пачаў хадзіць у сімфанічны аркестр, якім кіраваў Рыгор Сарока. Так і пазнаёміўся з ім як з кіраўніком і дырыжорам. Пачаліся паездкі, канцэрты. А калі быў на чацвертым курсе, то сабраўся паступаць у акадэмію музыкі, тады была кансерваторыя. Вырашылі, што буду вучыцца і працаваць у музкаледжы. І пасля заканчэння ўстановы размеркаваўся ў свой каледж. З падтрымкай Рыгора Сямёнавіча стаў кіраваць духавой школай на Парашках. А пасля стаў дырэктарам тэатра.

Для мяне Рыгор Сямёнавіч – выкладчык, адзін з людзей залатога фонду Маладзечаншчыны, з якім заўсёды можна параіцца. І які заўсёды дапаможа. Яго ведаюць усе, настолькі ён харызматычны. Творца, Адміністратар і Чалавек – і ўсё з вялікай літары. Такіх людзей адзінкі, таму іх неабходна цаніць. Рухавік, з якога варта браць прыклад.

Няхай яго жыццёвая дарога будзе як мага даўжэйшая. Няхай на яго шляху сустракаюцца такія ж творчыя людзі, каб разам рабіць вялікія справы!

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

# Школьныя гады прыпалі на беднасць і сталінскае вар'яцтва

## Паэт і перакладчык Уладзімір Папковіч згадвае сваё дзяцінства на Вілейшчыне

ВІЛЕЙКА

**– Распавед пра сябе самога варта пачынаць яшчэ з часоў да майго нараджэння, – кажа паэт, перакладчык, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Уладзімір Папковіч.**



Фота Радыё Свабода

Уладзімір Папковіч.

### Як маладыя з Вілейшчыны спраўлялі вяселле ў Петраградзе

Да рэвалюцыі яго бацькі жылі ў Петраградзе. Яны былі родам з Вілейшчыны: маці з вёскі Зачарная, а бацька – з Дварца, што цяпер у Хаценчыцкім сельсавеце. Тут і заспелі рэвалюцыю.

Старэйшая сястра паэта **Леаніла Антонаўна** ведала, верагодна, з распаведаў маці пра вяселле бацькоў у Петраградзе. Вяселле атрымалася адмысловае. Да таго часу ў гэтым горадзе ўжо сабралася цэлая суполка землякоў: **Марыля Кратовіч, Васіль Папковіч, Мікалай Шульскі, Манька Юшкевіч**, мамін дзядзька, афіцэр царскай арміі **Язэп Дзік**. Ён меў нейкія адносіны да царскай стайні, у яго былі падначаленыя. Вяселле адбылося падчас лютаўскай рэвалюцыі 1917 года. Дзядзька Язэп падабраў тройку белых коней, запрог у белую карэту. Вянчаліся ў Царскім Сяле.

– На жаль, той час не прынёс шчасця ні цару, ні маім бацькам, – уздыхае Уладзімір Антонавіч.

Вольга (у дзявоцтве Спірыдовіч) працавала пакаёўкай у інжынера. Бачыла, як прыходзілі салдаты, матросы, усё забіралі ў сям'і. Па словах Уладзіміра Антонавіча, маці да гэтага ставілася вельмі негатыўна. Камуністаў, ці «акцівістаў» яна не любіла і адвяргала ўсёй душой. Гаспадарам Вольгі пашчасціла эміграваць у Вялікабрытанію. Клікалі з сабой і пакаёўку. Аднак яна з'язджаць не захацела.

Бацька Уладзіміра Антонавіча працаваў кур'ерам на цягніку «Петраград-Кіеў». Пасля рэвалюцыі жыць стала цяжка, быў голад. І Папковічы вырашылі вярнуцца на радзіму. Першае дзіця, хлопчык **Косця**, падчас пераезду захварэла і потым памерла.

– Трагедыя з малымі дзецьмі паўтаралася пазней раз ад разу. Таму мне найбольш запомніліся маміны заплаканыя вочы і рэдкая гаротная ўсмешка. Лёс не ашчаджаў. Жывых нас тады засталося чацвёра.

### Крыху пра Польшчу і Саветы

Па вяртанні Папковічы пабудавалі хату ў Дварцы. Пры Польшчы ўлады папрасілі Антона Папковіча быць солтысам. Там ён стаў старастам над некалькімі вёскамі, быў сваім чалавекам у гміне.

– Польскага часу я амаль не памятаю, нарадзіўся ў 1935 годзе. Пра час пад Польшчай ведаю толькі тое, што напісана ў савецкіх падручніках: прыгнёт, беднасць, здзекі, паншчына... Нават калі адносіцца да ўсяго гэтага крытычна, як я адношуся да ўсёй савецкай прапаганды, усё-такі беларусам пад Польшчай жылося нялёгка. Вёска наша была бедная. У Хаценчыцах – пан, у Лукаўцы – пан.

Як прыйшлі Саветы, бацька зрабіў у адным з пакояў чырвоны кутод. Хата была па тых часах вялікая, на дзве паловы. Тут збіралася моладзь. Тут ён ёй нешта распавядаў. Магчыма, пра рэвалюцыйныя падзеі ў Петраградзе, а магчыма, і анекдоты. Мяне, пяцігадовага, ставіў на ўслончык, і я чытаў вершы беларускіх паэтаў, – прыгадвае суразмоўца.

У час Другой сусветнай вайны ў хаце Папковічаў жылі два партызаны-радысты. Яны падтрымлівалі сувязь з Масквой. Адзін з іх, **Саша**, загінуў. А другі, **Мікола Ваданосаў**, пасля стаў дзіцячым пісьменнікам. Менавіта праз яго вершы Папковіча ў свой час трапілі да **Рыгора Барадуліна**.

### Татка ўжо ведаў, што па яго прыйдуць

Падчас вайны бацька будучага паэта працаваў у райфінаддзеле ў Ілы, колішнім райцэнтры. Туды забраў вучыцца старэйшых дзяцей. Неяк ён прыйшоў дамоў з працы, узяў амаль дзесяцігадовага сына да сябе на калені, прылашчыў і пацалаваў:

– Такое бывала рэдка. Татка ўжо ведаў, што па яго прыйдуць, а натуру бальшавікоў ён, пэўна, ведаў знутры. Пасля гэтага разу я яго не бачыў. Толькі партрэт вісеў у хаце на пачэсным месцы. Прыгожы малады мужчына ў капелюшы з пецярбургскіх часоў. У гэткай апратцы я цяпер бачу толькі дарэвалюцыйных пісьменнікаў ды артыстаў. Нашы, цяперашнія, хоць і выбіліся «з гразі ў князі», але капялюш правільна насіць не навучыліся.

Антону Папковічу далі пяць год нібы за тое, што пры Польшчы быў солтысам. Пасля сям'я даведалася, што памерла бацьку недзе на дарозе выкінулі з цягніка. Больш нічога дзеці не ведалі. Ужо пры Хрушчове атрымалі паперу, што ён рэабілітаваны ў сувязі са смерцю. Не вінаваты, бо памёр, горка жартуе Уладзімір Антонавіч.



Фота з архіва паэта.

Уладзімір Папковіч з аднакласнікамі (трэці злева ў другім радзе) ў 1950-х гадах у Ілы.

### Пра Ілю і Ілью

Пачатковую школу хлопец скончыў у Мардасах. Да сёмага класа вучыўся ў школе, што месцілася ў вялікай хаце на хутары Казлеўшчына, каля Хаценчыцаў. Тут атрымаў пасведчанне з адной тройкай – па Канстытуцыі СССР.

– Пасля сямі класаў пайшоў у восьмы ў раённы цэнтр таго часу – у Ілю. Людзі вымаўлялі так: Іля. Але Саветы і тут перарабілі на рускае Ілья, хоць ніхто ніколі з мясцовых так не гаварыў.

Мама завяла сына ў Ілью. Спачатку нанялі кватэру. У дзявятым класе далі інтэрнат. А на наступны год не далі. Відаць, з-за паводзін, мяркуе Уладзімір Антонавіч.

У школе вучань Папковіч напісаў адзін са сваіх першых вершаў. Твор быў прысвечаны 8 Сакавіка. Хлопец аднёс яго ў ільянскую раёнку. Але верш не надрукавалі. Гэта быў якраз 1953 год, 5 сакавіка памёр Сталін. Таму ў газеце было не да літаратурных спроб маладога паэта.

Як прыгадваецца паэту школа?

– Школа мне мала дапамагла ў духоўным развіцці. Усё, што я маю ў душы, гэта ці ад мамы, ці плён самаадукацыі і самаразвіцця. Мае школьныя гады прыпалі на пасляваенную беднасць і сталінскае вар'яцтва. Пра бацьку я ўжо сказаў. Адсюль вечнае недаўменне ў душы. Між іншым, цяпер я толькі разумею, што большасць з маіх равеснікаў-аднакласнікаў адчувалі сябе таксама нядобра. З 18 маіх аднакласнікаў я цяпер ведаю, у траіх блізкія сядзелі ў турме. Калінікалі нам напаміналі пра гэта.

Са школай Уладзімір Папковіч развітаўся ў год смерці Сталіна. Пасля было паступленне ў інстытут замежных моў, гады студэнцтва, пераезд у Віцебск, паэзія, выкладчыцкая праца. Магчыма, пра гэта Уладзімір Антонавіч яшчэ распавядзе на старонках нашай газеты.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Смаргонка згуляла за беларускую зборную па баскетболе

Зборная Беларусі перамагла Вялікабрытанію ў першым кваліфікацыйным матчы да Еўрабаскета-2021. У складзе беларускай нацыянальнай каманды выступіла смаргонка **Юлія Рыцікава**.

**Зборная Беларусі перамагла брытанскіх баскетбалістак з лікам 90:59.**

Гэта першы матч для беларусак у кваліфікацыйным этапе да чэмпіянату Еўропы, які пройдзе ў 2021 годзе. Нацыянальная зборная згуляла ў Манчэсцеры на выездзе. Юлія Рыцікава набрала 5 ачкоў, 1 перадача, 1 перахоп.

Беларусь выступае ў групе F разам з Вялікабрытаніяй і Польшчай. Наступны матч падапечных галоўнага трэнера **Наталлі Трафімавай** правядуць толькі ў 2020 годзе.

**Настасся УТКІНА.**

## Маладзечанскі выратавальнік заняў першае месца на чэмпіянаце МНС па самба

У Гомелі 15 лістапада прайшоў чэмпіянат МНС па самба. У спаборніцтвах прынялі ўдзел восем камандаў, якія прадстаўлялі абласныя (Мінскае гарадское) упраўленні МНС і Універсітэт грамадзянскай абароны МНС Беларусі. Месцы размяркоўвалі па вагавых катэгорыях.

**Сяргей Лясяк** з маладзечанскага пажарнага аварыйна-выратавальнага атрада Мінскага абласнога ўпраўлення МНС заняў першае месца ў катэгорыі да 100 кілаграмаў. А выратавальнікі з Мінскай вобласці заваявалі золата ў агульнакамандным заліку на чэмпіянаце МНС па самба.

**Паводле МНС Беларусі.**

## Каманда вучняў з Маладзечна – трэцяя па шашках у Мінскай вобласці

Абласныя спаборніцтвы па шашках ладзілі 16 лістапада ў Пухавічах. У тройцы лідараў – каманда з Маладзечна.

Спаборніцтвы праходзілі ў рамках абласной спартакіяды школьнікаў. Удзельнічалі хлопцы і дзяўчаты 2005-2006 гадоў нараджэння і малодшыя.

Маладзечанская каманда заняла трэцяе месца, саступіўшы Жодзіну і Пухавічам, паведамляюць ва Упраўленні адукацыі Мінаблвыканкама.

**Аддзел інфармацыі.**

## Віляйчук Літвіновіч стаў лепшым у індывідуальных і сінхронных скачках на батуце

Іван Літвіновіч заняў першыя месцы ў гэтых катэгорыях на чэмпіянаце Беларусі. Хлопец заняў першае месца ў мужчынскіх сінхронных скачках у пары з **Алегам Рабцавым**. А таксама стаў фаварытам у індывідуальных скачках. Да спорту хлопца далучыла мама – трэнер па спартыўнай акрабатыцы **Таццяна Літвіновіч**. Займацца скачкамі на батуце Іван пачынаў у вілейскага трэнера **Пятра Зайцава**. Цяпер Івана трэніруе **Вольга Уласава**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Алімпійскія кваліфікацыйныя патрабаванні і нарматывы выканалі 65 беларускіх спартсменаў

Алімпійскія кваліфікацыйныя патрабаванні і нарматывы, якія даюць права выступаць на Алімпійскіх гульнях-2020 выканалі 65 беларускіх спартсменаў у 13 відах спорту, 53 відах праграмы. Пра гэта паведаміў міністр спорту і турызму **Сяргей Кавальчук** на Алімпійскім сходзе НАК.

Па словах міністра, гэта лічба неканчатковая. Кавальчук упэўнены, што ў беларускіх спартсменаў ёсць усе шанцы павялічыць колькасць пропускаў на Алімпіяду-2020. У першую чаргу надзеі звязваюцца з батутыстамі, якія 28-30 лістапада будуць выступаць на чэмпіянаце свету ў Токіа.

Акрамя таго, у 2020 годзе беларускія спартсмены працягнуць спрэчку за ліцэнзіі на кваліфікацыйных стартах. Частка пропускаў на гульні будзе размеркавана, улічваючы пазіцыі спартсменаў у сусветных рэйтынгах. Такім чынам, на наступных гульнях у Японіі беларускія спартсмены плануюць заваяваць 100-120 ліцэнзій.

**Паводле belta.by.**




Фота прэс-службы «Дынама-Маладзечна».

Хакеісты «Дынама-Маладзечна» і «Магілёва» падчас бойкі ў «дзіўным» матчы.

# Следчы камітэт расследуе матч паміж «Дынама-Маладзечна» і «Магілёвам»

**Праваахоўныя органы пачалі расследаванне абставінаў матча паміж «Дынама-Маладзечна» і «Магілёвам» у беларускай экстралізе, які адбыўся 12 лістапада.**

### Заява федэрацыі, а следчыя пакуль маўчаць

Федэрацыя хакея зрабіла афіцыйную заяву, у якой кажа пра адмену пасяджэння дысцыплінарнага камітэта ў сувязі з аператыўна-вышуковымі мерапрыемствамі і следчымі дзеяннямі з фігурантамі гульні паміж маладзечанцамі і магілёўцамі.

**У заяве адзначаецца, што федэрацыя супрацоўнічае са Следчым камітэтам, каб устанавіць усе абставіны таго матча.**

Федэрацыя лічыць зачуднымі якія б то ні было заявы і рашэнні ад імя грамадскіх арганаў «да атрымання афіцыйнай інфармацыі ад Следчага камітэта і судовых інстанцый».

### Пытанні да каціровак букмекераў

Гульня дынамаўцаў з «Магілёвам» выклікала і падазрэнні з-за каціровак букмекераў. Каэфіцыент на аўтсайдэра гульні «Магілёў» рэзка ўпаў перад гульнёй – з 7.10 да 1.68.

Прыём ставак на матч букмекер пачаў у раёне пяці раніцы 12 лістапада з наступнымі каэфіцыентамі:

- перамога «Дынама-Маладзечна» ў асноўны час – 1.30.
- нічыя – 5.12.
- перамога «Магілёва» ў асноўны час – 7.05.

**Шанцы гасцей на поспех лічыліся мізэрнымі.**

З набліжэннем да пачатку матча каэфіцыенты змяніліся. За паўтары гадзіны да гульні каціроўка на перамогу Маладзечна ўжо стаяла ў раёне 2.20 – гэта нерэальны рост каэфіцыента на яўнага фаварыта. На поспех «Магілёва» таксама давалі каля 2.20. За 20 хвілін да пачатку матча букмекерскія канторы панізілі каэфіцыент на перамогу гасцей да 1.68. А большасць сусветных букмекераў увогуле прыпыніла прыём ставак на матч у Маладзечне.

**Рост і падзенне каэфіцыентаў адбываліся пры адсутнасці якіх-небудзь навін аб кадравых зменах у камандах, здольных паўплываць на расклад сіл перад гульнёй.**

«Трыбуна» пагутарыла з экспертамі ў сферы ставак, і яны лічаць, што такія змены каэфіцыентаў паказваюць на тое, што на перамогу «Магілёва» перад матчам былі пастаўлены вялікія сумы.

Пры гэтым спецыялісты, якія маюць дачыненне да ставачнага бізнесу, выключаюць такі варыянт, што каціроўкі аселі толькі з-за актыўнасці ў беларускіх канторах. Абстрагуючыся ад канкрэтнага матча, эксперты, з якімі ўдалося пагутарыць «Трыбуне» па гарачых слядах, сцвярджаюць, што ў пераважнай большасці выпадкаў падобныя скокі каціроўкі адбываюцца пры дамоўных матчах.

### Гульню называюць «дзіўнай»

Падазрэнні ў «злітым» матчы былі з-за ходу паядынку. А ў беларускіх спартыўных СМІ гульню адразу назвалі «дзіўнай».

У сярэдзіне матча гаспадары ўпэўнена вялі 5:1, а далей «львы» спачатку скарацілі перавагу і параўнялі лік. Арцём Шапіра з «Магілёва-2» вырывае перамогу для асновы. У выніку дынамаўцы прайгралі сустрэчу 5:6.

Галоўны трэнер «Дынама» **Дзмітры Краўчанка** ўвогуле патлумачыў на прэс-канферэнцыі, што прычына паражэння не ў хакеі:

– Можна назваць шмат прычын, чаму мы сёння так згулялі: што вялікі перапынак быў, што не выйшлі з-пад нейкай пэўнай нагрузкі. Але трэба разумець: калі не гуляе адзін ці два чалавекі – гэта адно, а калі не гуляе ўся каманда – гэта іншае. Тут прычына не ў хакеі, трэба шукаць прычыны каля хакея.

Пасля матча выставілі на драфт адмоваў (працэдура, якая рэгулюе правы хакейных клубаў і хакеістаў у працэсе скасавання кантрактаў) трох хакеістаў з «Дынама»: **Аляксандра Сырэя**, **Аляксея Іванова** і **Сяргея Шэлега**. Цікава, што ў выпадку сыходу Іванова ў камандзе застанецца толькі адзін свой галкіпер – 18-гадовы **Павел Капскі**, які пакуль не правёў ніводнага матча.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Спецыяльны стрыжань, прызначаны для чысткі і змазвання канала ствала ручной агнястрэльнай зброі.
2. Галоўны персанаж байкі Кандрата Крапівы пра дыплом.
4. Аб'ява, паведамленне з мэтай прыцягнуць увагу.
6. Майстар па шыцці і рамонце абутку.
7. Востраў, які абмываюць Японскае і Ахоцкае моры.
10. Сукупнасць прыёмаў, здольных, паводле забабонных уяўленняў, выклікаць звышнатуральныя з'явы.
11. Сумесь тлушчу з лекавымі сродкамі для ўцірання ў скуру або для намазвання яе.
12. Камплект друкарскіх літар пэўнага размеру і формы, неабходны для набору тэксту.
13. Орган самакіравання ў гарадах феадальнай Заходняй Еўропы, а таксама будынак, дзе ён размяшчаўся.
14. Гэта частка свету носіць назву ў гонар міфа пра Зеўса, Калісто і іх сына. Імя сына значыць «мядзведзь».
15. Страва з дробна парэзанага і ўтушанага з гароднінай мяса або ўтушанай гародніны з вострым соусам.
18. Гнуткая труба або рукаў для адводу, перадачы і падобнага вадкасцей, сыпучых рэчываў, газу.
20. Поўнае разбурэнне, спыненне існавання.
22. Адно з найбуйнейшых азёр Беларусі.
23. У фізіцы – светлавая велічыня, якая характарызуе свячэнне ў дадзеным кірунку крыніцы святла або асветленай паверхні.
24. Высоўная або нерухомая канструкцыя (колы, паплаўкі, лыжы) у самалёце, якая служыць для яго руху па аэрадроме пры ўзлёце і пасадцы.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
3. Прыстасаванне для штучнага абагравання ўздзеяннем гарачай вады, электрычнасці.
5. Рукапіс на пергаменце, з якога саскаблілі папярэдні запіс.
8. Жулік, ашуканец.
9. Месца, дзе хаваюць памерлых.
10. Галіна мастацтва, якая адлюстроўвае рэчаіснасць у гукавых мастацкіх вобразах.
11. Прозвішча англійскага пісьменніка, які прыдумаў гісторыю пра мядзведзя з апілкамі ў галаве.
15. Сумесна, у сукупнасці.
16. Выпрацаваны звычаем ці ўстаноўлены парадак выканання, цырыманіял.
17. Гэты гатунак мяккага сыру паходзіць з вострава Крыт.
19. Заканадаўчы акт.
20. Гукі, якія ўзнікаюць пры размове, крыку або спеве дзякуючы хістанню галасавых звязак.
21. Верхні пласт зямлі, на якім вырастае расліннасць.



## Адказы на крыжаванку з №46

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Чысціня. 4. Крэдыт. 5. Даход. 9. Чайнік. 11. Чарговы. 13. Пудра. 14. Дазвол. 17. Прусія. 19. Персона. 20. Еўропа. 21. Нарач. 23. Клерк. 25. Гаваі.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Прыткі. 3. Псіхоз. 4. Кухня. 6. Чынш. 7. Дабранач. 8. Барбі. 10. Хічкок. 12. Жупраны. 14. Долу. 15. Ядро. 16. Джокер. 18. Ліпа. 22. Мюнхен. 23. Краса. 24. Чаравікі. 26. Конь.



## ГАРАСКОП на 22-28 ЛІСТАПАДА

**АВЕН.** Гэта ваш час, таму скарыстайце яго на ўсе 100%. Любыя справы будуць паспяховымі. Вы ўбачыце вялікую розніцу паміж тым, як вы ўяўлялі сабе рамантычныя адносіны і якія яны ў рэальнасці. Рэальнасць вам спадабаецца больш.

**ЦЯЛЕЦ.** Многае будзе залежаць ад вашага самаадчування. Добры настрой і прыемныя падзеі будуць насіць вас на крылах. Калі і ў вас, і ў партнёра сур'ёзныя намеры, паспрабуйце наладжваць сумесны быт.

**БЛІЗНЯТЫ.** Вам давядзецца адстойваць свае меркаванне. Асабліва гэта тычыцца сяброў – тут добрая спрэчка не толькі не пашкодзіць, але і стане штуршком для новых адкрыццяў. Разабраўшыся ва ўсім, вы станеце толькі бліжэй адзін да аднаго.

**РАК.** Вельмі напружаны перыяд. Але наперадзе вас чакае яшчэ больш аб'ём працы. І разлічваць варта толькі на сябе. Ад каханых вам спатрэбіцца падтрымка і паразуменне.

**ЛЕЎ.** Не спрабуйце нікога перавыхоўваць. Паклапаціцеся пра сваё харчаванне. Найлепшы час, каб пачаць дыету або абмежаваць сябе ў харчаванні. На асабістае жыццё будуць моцна ўплываць падзеі мінулага. Калі вы шукаеце каханне, то не імкніцеся да кахання з першага погляду – яно рэдка доўга жыве.

**ДЗЕВА.** Варта абмежаваць час, які вы праводзіце ў сацыяльных сетках. Гэта не прынясе карысці, а скрадзе неабходны вам час. А вось паход па магазінах будзе якраз дарэчы – вы можаце зрабіць вельмі ўдалыя пакупкі, і нават атрымаць магчымыя бонусы.

**ШАЛІ.** Добры перыяд, каб задумацца пра рамонт, спланаваць дызайн, купіць матэрыялы. Блізкія людзі могуць патрабаваць шмат увагі. Вам давядзецца лічыцца з іх патрэбамі. У рэшце рэшт вам аддзячаць прыемнымі сюрпрызамі.

**СКАРПІЁН.** Каб атрымаць усё, чаго хочаце, вам, у першую чаргу, не хапае дысцыпліны. З-за гэтага могуць узнікнуць складанасці з начальствам. Не атрымаецца знайсці поўнае паразуменне з сям'ёй, а дзеці ўвогуле будуць нерваваць. У асабістых адносінах давядзецца клапаціцца пра партнёра, удзяляць увагу яго справах.

**СТРАЛЕЦ.** Многім спатрэбіцца ваша дапамога. А вам якраз захочацца атуліць сваёй дабрынёй блізкіх. Нішто не зможа вас парадаваць больш, чым удзячныя вочы. Разам з каханым чалавекам варта заняцца агульнай справай. Гэта вас зблізіць, дапаможа зразумець, як шмат вы адзін для аднаго значыце.

**КАЗЯРОГ.** Лепш пакуль устрымацца ад буйных пакупак. Варта ашчадна ставіцца да грошай – як сваіх, так і чужых. У асабістых адносінах самым важным будзе заставацца шчырымі. Не закрывайце вочы на відавочныя складанасці.

**ВАДАЛЕЙ.** У гэты час не варта займацца актыўнай дзейнасцю. Вашы каханыя не будуць разумець матываў вашых учынкаў, таму лепш патлумачыць усё самім.

**РЫБЫ.** Вельмі шмат сустрэч могуць вычарпаць вашу энергію. Але разам з тым варта не прапускаць шансы, якія вам падорыць лёс.

**Эмілія ХВОЯ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 5 | 1 | | | 2 | 9 | | |
| 6 | 7 | | | 8 | | | 4 | |
| | | 9 | 7 | | 1 | | 8 | |
| | | | 8 | | 3 | 6 | 5 | |
| 3 | | 5 | | | | 4 | | |
| 7 | 6 | | | | | 3 | | |
| | | 7 | | 2 | | 1 | | |
| | | 6 | | 9 | | 8 | | |
| 2 | | | | | 4 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

Рэгіянальная газета. Rh.by



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## З чым у вас асацыюецца імя Кастуся Каліноўскага?

**Эдуард Мацюшонак, кіраўнік студыі і выкладчык мастацтва, Вілейка:**
– Кастусь Каліноўскі для мяне з'яўляецца вобразам нацыянальнага героя, які марыў абаднаўленні незалежнай дзяржавы.

**Эдзіта Бранцэвіч, выхавальніца, Смаргонь:**
– У мяне імя Кастуся Каліноўскага асацыюецца са змаганнем, барацьбой за свабоду, незалежнасць, са смеласцю, выразнымі патрыятычнымі каштоўнасцямі.

**Віктар Жук, настаўнік, Маладзечна:**
– Калі ў гістарычным кантэксце, зразумела, што з паўстаннем 1863-1864 гадоў, а калі ў больш шырокім сэнсе – з барацьбой і самаадданасцю. Каліноўскі – наш герой. Трэба памятаць!

**Васіль Грынь, гаспадар аграсядзібы, Валожынскі раён:**
– Каліноўскі – гэта нацыянальны герой для Беларусі, прыклад мужнасці і патрыятызму для сучасных грамадзян нашай краіны.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

Кастусь Каліноўскі – палітычны дзеяч, публіцыст і паэт. Ён быў адным з кіраўнікоў паўстання 1863—1864 гадоў на землях Беларусі і Літвы. 22 лістапада 2019 года ў Вільні адбудзецца перапахаванне Кастуся Каліноўскага і іншых паўстанцаў 1863-1864 гадоў.



## Чытайце праз тыдзень:

● «Мясціны вакол вёскі вельмі змяніліся, вось і захацела расказаць, як было ў маё юнацтва». Чытачка «Рэгіянальнай газеты» распавядае гісторыю, як у яе роднай вёсцы Дубіне нарыхтоўвалі торф.

## 23 лістапада, субота

**Вецер:** паўднёва-ўсходні, 6 м/с

| Горад | Ноччу | Днём | Надвор'е |
|---|---|---|---|
| Астравец | -3 | -1 | Хмарна |
| Мядзел | -4 | -1 | Хмарна з праясненнямі |
| Вілейка | -3 | -2 | Хмарна з праясненнямі |
| Смаргонь | -3 | -1 | Хмарна з праясненнямі |
| Ашмяны | -4 | -1 | Хмарна |
| Маладзечна | -3 | -2 | Пераменная воблачнасць |
| Валожын | -3 | -1 | Пераменная воблачнасць |

Усход 8.55
Захад 17.02
Даўжыня дня 8.08

Усход 4:02
Захад 16:07
Месяц на сходзе

### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература -16,8°С у 1998 годзе
Максімальная тэмпература +10,3°С у 1980 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 7,1 мм у 1999 годзе
Паводле meteoinfo.by.

## Чалавек без газеты – як дрэва без лісця. Падпішыся на «РГ!»

**Ідзе падпіска на першае паўгоддзе 2020 года!**

### Падпісацца на «РГ» можна:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у асабісты інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**
• на месяц – 4 рублі 90 капеек;
• на квартал – 14 рублёў 70 капеек;
• на паўгоддзе – 29 рублёў 40 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**
• на месяц – 15 рублёў;
• на квартал – 45 рублёў;
• на паўгоддзе – 90 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4100 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№47 (1282) 22.11.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1903. Падпісана ў друк у 9.00 21.11.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.